


Савецкая Канстытуцыя прадстаўляе нашым юнакам і дзяўчатам вялікія правы: права на працу, права на вучобу, права на адпачынак. Толькі ў нашай рэспубліцы пабудаваны сотні сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў, у якіх навучаюцца тысячы юнакоў і дзяўчат. Звыш трохсот юнакоў і дзяўчат, якія сёлета закончылі сярэднюю школу, паступілі ў Мінскае тэхнічнае вучылішча № 1. Вучылішча рыхтуе токараў, наладчыкаў такарных аўтаматаў, канструктараў і іншых спецыялістаў для заводаў рэспублікі. На здымку: Старшы майстар вучылішча Валеры Блізнюк знаёміць навучэнцаў першай групы токараў з абсталяваннем вучэбнай майстэрні. (Злева направа) **Лілія Белабровік, Зінаіда Кудзін, майстар Валеры Блізнюк, Валянціна Хадасевіч, Алена Каўрэй і Надзежда Бельская.**

**Фото А. Гарэльчыка і М. Мінковіча.**



**Іосіф Вісарыёнавіч СТАЛІН**
**Да 75-годдзя з дня нараджэння**



Багаты працадзень сёлета ў калгаснікаў сельскагаспадарчай арцелі «Комінтэрн» Магілёўскага раёна. Так, малады жывёлавод загадчык фермы буйнай рагатай жывёлы Уладзімір Кузьмянкоў атрымаў за год звыш 3 тысяч рублёў грашыма, 150 пудоў хлеба, 5 тон бульбы, 300 кілаграмаў гародніны і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў. На здымку: калгасны касір Анна Васільеўна Лушкова выдае Уладзіміру Кузьмянкову грошы.

Фото Р. Каралёва.

Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання II.

№ 12(21).

Снежань.

1954.

Васіль ДЗЯНІШЧЫК

# У ВЯЛІКАЙ ЗОНЕ

**НАТАТКІ ІНСТРУКТАРА РАЙКОМА КОМСАМОЛА ПА ЗОНЕ НЯСВІЖСКАЙ МТС**

### Першыя крокі

— Ну, брат, давай дзейнічай. Работы ў цябе многа. Калі будзе цяжка — заходзь, не саромся, дапаможам. — Сакратар райкома паціснуў мне руку, правёў да дзвярэй.

Я вышаў у калідор, узяў свой веласіпед, выкаціў яго на вуліцу. Быў цёплы жнівеньскі дзень. На небе ні воблачка. З хвіліну я стаяў, асляплены праменнямі сонца, але доўга любавацца прыродай не было часу: трэба ехаць, пачынаць сваю работу.

Вядома, што работа комсамольскага арганізатара моладзі вельмі цікавая: заўсёды сярод мас, заўсёды з жыццерадаснымі юнакамі і дзяўчатамі. З моладдзю хутка збліжаешся, адчуваеш сябе ў роднай, знаёмай стыхіі. Таму працаваць хоць і не вельмі лёгка, затое прыемна і пачэсна. Але сёння, едучы ў калгас, я задумаўся.

Яшчэ зусім нядаўна ў райкомах комсамола была іншая структура: увесь апарат знаходзіўся на месцы. Цяпер рашэннем ЦК уведзены пасады інструктараў па зонах МТС. Работнікі райкома, такім чынам, набліжаны да пярвічных арганізацый. За гэтыя дні я многа размаўляў са старэйшымі па рабоце і ўзросту таварышамі. У цэлым задача мне зразумелая: арганізоўваць, мабілізоўваць моладзь на актыўны ўдзел ва ўздыме сельскай гаспадаркі. Але як вырашаць гэтую задачу канкрэтна, у дэталях, з чаго пачынаць работу інструктара, я не ведаў.

Учора я наведаў МТС, азнаёміўся са становішчам спраў у калгасах. Распытваў таксама і пра работу комсамольскіх арганізацый, але тут мне адказвалі вельмі агульна.

— Комсамольцы ў нас у авангардзе, — гаварылі адны.

— Мала ініцыятывы, — наракалі другія.

— Працуюць нішто, — ухіляліся ад прамых адказаў трэція.

«Дрэнныя справы, — думаў я, едучы з МТС дадому. — Пра комсамольцаў так не павінны гаварыць».

У райкоме комсамола пра становішча ў пярвічных арганізацыях ведалі добра, але больш у агульнакалгасных маштабах. А як працуюць групы, брыгадныя арганізацыі? Што трэба рабіць мне?

— Справа новая, прыдзецца самому вопыт набываць, — адказалі мне на маё пытанне.

І вось цяпер я еду «набываць» гэты самы вопыт. Шчыра кажучы, добра не ведаю, з чаго пачну сваю работу.

Комсамольскі работнік, чытаючы гэтыя радкі, напэўна, скажа: вось здорава, інструктар выязджае ў арганізацыю без пэўнага плана! Нажаль, усё было так, як расказваю. Адно мне было зразумелым: спачатку я паеду не ў калгасную канцылярыю, а на поле, у самую аддаленую ад цэнтра брыгаду. Рашэнне гэтае наспела не выпадкова. Я і раней па даручэнню райкома выязджаў у пярвічныя арганізацыі. Звычайна след майго веласіпеда канчаўся ля ганка калгаснага клуба. Тут я гутарыў з членамі камітэта комсамола, «даваў» указанні, браў патрэбныя звесткі і ехаў назад. Цяпер, пасля змянення структуры райкома, я зразумеў: настаў час дайсці не толькі да кожнай брыгады, але да кожнага комсамольца, паглядзець на тых членаў ВЛКСМ, што даўно заваявалі славу пасіўных. Для першага наведвання я выбраў калгас «Новы шлях». Прыехаў у самую аддаленую брыгаду. Прыходжу на поле да моладзі.

— Як працуе ваша комсамольская арганізацыя? — пытаюся ў дзяўчат.

— А ў нас,— адказвае адна порсткая дзяўчына,— ніякай арганізацыі няма. Уся арганізацыя ў цэнтры, а мы... як тут вам дакладней сказаць... неарганізаваныя, самі па сабе.

— А хто ў вас сакратаром камітэта комсамола?

Тут галасы дзяўчат раздзяліліся. Хвілін пяць дзяўчаты спрачаліся, ды так і не прышлі да згоды.

— Як-жа гэта вы, — кажу ім, — сакратара не ведаеце?

Дзяўчаты загаманілі:

— Дык мы-ж у брыгадзе жывем!

— Гэта нібы на поўночным полюсе...

— Вось дык сказала! Для зімоўшчыкаў-жа канцэрты даюць, а да нас нават кіно не прыязджае.

— Нічога, дзяўчаты, затое замуж будзем толькі ў цэнтр выходзіць. Хоць замужам культурна пажывем...



Для таго, каб многа ведаць, трэба многа чытаць.
Фото Р. Каралёва.

Пагаварылі мы з дзяўчатамі вельмі шчыра. Аказалася, што і ў іх можна сёе-тое арганізаваць: напрыклад, стварыць хор, правесці вечар танцаў, запрасіць кіноперасоўку. Патрэбны толькі арганізатар. А гэтым арганізатарам можа быць комсамольская група. Такім чынам, трэба неадкладна стварыць комсамольскую групу ў брыгадзе.

Пад вечар сустрэў сакратара камітэта комсамола Петрака Гацілу.

— Чаму так запушчана работа ў пярвічнай арганізацыі? — пытаюся ў яго.

— Не слухаюць мяне, хоць плач. Узносы ніяк не збяру, а ўжо на сход комсамольцаў склікаць зусім немагчыма. Ёсць вельмі несвядомыя. Напрыклад, Васіліна Гуль. Яе на сход або якое іншае мерапрыемства на лейцах не зацягнеш. А ўзносы яна, мусіць, гады два не плаціла.

— Усе такія?

— Не ўсе, але многія. А не слухаюць усе.

— Выходзіць, — кажу я яму, — адзін ты з усёй роты ў нагу ідзеш. Зойдзем да гэтай Васіліны.

Пятрок Гаціла давёў мяне да брамкі васіліні́нага дома.

— Вось тут яна жыве. Толькі я ў хату не пайду, бо гэтая Васіліна вось тут у мяне сядзіць, — сакратар красамоўным жэстам паказаў на шыю.

Заходжу ў хату. Гадоў пад трыццаць жанчына корміць з лыжкі малога. Яшчэ два — самі навыперадкі сёрбаюць наварысты боршч.

— Ці магу я бычыць Васіліну Гуль? — пытаюся я ў гаспадыні.

— Гэта я. А што вы хацелі?

Я так і сеў на лаўку.

— І дзеці вашы?

— Мае. А вы хто будзеце?

Прышлося расказаць Васіліне пра ўсё. Яна ўважліва слухала, усміхалася адны́мі вачыма, а пад канец твар яе спахмурнеў.

— Не ведаю, цікава вам мая думка ці не, але я скажу: Пятрок Гаціла не сакратар камітэта. Гэта малады чыноўнік са старым сэрцам. Тры хвіліны яго паслухаеш і засынаеш. Такога моладзь не любіць. Ды і не дбае ён пра моладзь. Я колькі разоў гаварыла: здыміце мяне з уліку, бо якая гэта ўжо комсамолка з траімі дзецьмі. А ён і слухаць не хоча, бо такіх, як я, у арганізацыі многа, і калі ўсіх зняць з уліку, арганізацыя стане маленькай, а за гэта ў райкоме не пахваляць. У той-жа час пра рост радоў ён не дбае. А комсамольскія сходы ў нас — гэта такі сум, што і ўявіць цяжка. Таму і не хочуць комсамольцы на іх хадзіць.

Не адна Васіліна Гуль — многія выказвалі думку аб тым, што патрэбна змяняць кіраўніцтва. Па ўсім адчувалася: на прадстаячым сходзе Петраку Гаціле можа не паздаровіцца. А раптам яго не выберуць? Каго тады на яго месца?

— Вось каб Надзя Баранава была сакратаром, — сказала мне Марыя Юхнель, — дык работа наладзілася-б.

З Надзеждай Баранавай, калгасным аграномам, я пазнаёміўся ў той-жа вечар у клубе. У той час, як Пятрок Гаціла, сакратар камітэта комсамола, ён-жа і загадчык клуба, сядзеў надзьмуўшыся за сталом і важна перагортваў нейкую кнігу, Надзежда Баранава нешта расказвала дзяўчатам. Потым яна разам з хлопцамі і дзяўчатамі пачала развучваць песню. Моладзь так і ліпла да яе. Неўзабаве ля Надзежды сабраліся ўсе прысутныя, адзін Пятрок Гаціла застаўся за сваім сталом.

Настаў дзень сходу. Пятрок Гаціла рабіў справаздачу. І цяпер ён застаўся верным сваім прынцыпам: ва ўсіх недахопах абвінавачваў толькі комсамольцаў. Якіх смертных грахоў ён ім не прыпісваў: і безініцыятыўныя, і несвядомыя, і адсталыя, і гаварыць не ўмеюць! Сход насцярожана маўчаў. Калі сакратар скончыў, горача загаварылі нават самыя «несвядомыя». Крытыкавалі так, што Пятрок паспяваў выціраць хусцінкай пот. Новым сакратаром камітэта комсамола была выбрана Надзежда Баранава.

Цяпер комсамольская арганізацыя пайшла ўгару. Сходы праходзяць актыўна, наладжваюцца вечары. Але я не забываю яе. Не праходзіць тыдня, каб я не заехаў у якуюнебудзь брыгаду, не пацікавіўся тым, як жыве і працуе тут моладзь.

### Моладзь ідзе на фермы

— Зноў прыехаў моладзь ад работы адцягваць? — такімі словамі сустрэў мяне старшыня калгаса «Новае жыццё».

— Наадварот, дапамагчы калгасу. Вось і вас запрашаем на сход.

— Э-э-э, якая там дапамога! Будзеце сход збіраць, ну, вядома, і да сходу і пасля сходу... танцы. А заўтра ўсе будуць хадзіць сонныя. Дзякую за такую дапамогу! Праводзьце ўжо сход самі, без мяне.

— А мы хацелі вам даклад даручыць. Думаем рашаць пытанне аб пасылцы комсамольцаў працаваць на фермы.

— Вось гэта правільна! На колькі гадзін сход назначаны?

Яшчэ да сходу разам з сакратаром комсамольскай арганізацыі Уладзімірам Пасадскім мы дэталёва вывучылі магчымасці пасылкі комсамольцаў на фермы. Быў выпушчаны спецыяльны нумар насценнай газеты. Работа праведзена вялікая, але пакуль што ніхто не выказваў жадання ісці працаваць на ферму.

— Трэба падрыхтаваць выступленні, — сказаў мне Уладзімір Пасадскі. — Баюся, што ніхто не выступіць.

— Выступяць,— не зусім цвёрда сказаў я.

— Лепш падрыхтую выступленні.

І Уладзімір пачаў дзейнічаць. Былі падабраны комсамольцы для выступленняў, Уладзімір разам з імі напісаў прамовы.

Сход ішоў, як па маслу. Адзін за адным комсамольцы бралі слова і гаварылі прамовы аб важнасці ўздыму жывёлагадоўлі, заклікалі ісці на фермы і пад апладысменты садзіліся на месцы. Знешне, па форме ўсё было добра: ёсць што запісаць у пратакол. Але я разумеў: вынікаў ад гэтага сходу чакаць няма чаго.

Побач са мной сядзела маладзенькая дзяўчына Васіліна Матус і чамусьці нервавалася.

— Не магу слухаць такія выступленні, сорамна.

— А чаму вы не выступіце?

— А хіба можна без шпаргалкі?

— Вядома, можна. Прасіце слова.

— А раптам не дадуць?

— Добра, я пасадзейнічаю.

Старшыня назваў прозвішча Васіліны. Яна пачырванела, падхапілася з лаўкі, сказала словы два і змоўкла, відаць, разгубілася. Валодзя Пасадскі пачаў выручаць.

— Так як жывёлагадоўля важная галіна... — зашаптаў ён.

Васіліна яго перабіла:

— А ты не падказвай. Я і ў школе падказчыкаў не любіла. Проста агідна слухаць вось такія, на паперках пісаныя прамовы. Каго заклікалі выступаючыя? Адзін другога, выходзіць, а на ферму ніхто ісці не збіраецца. Сорамна, вось што! Валодзінымі прамовамі мы жывёлагадоўлю не падымем. Хопіць ужо размовамі займацца. Калі давяраеце мне — пашліце даяркай. Можа не так што сказала — прабачце.

Васіліну ўзнагародзілі шчырымі апладысментамі. За ёй яшчэ тры дзяўчыны папрасілі паслаць іх на ферму.

Я ішоў са сходу і думаў, што вельмі часта мы многа ўвагі ўдзяляем таму, каб сход ішоў гладка, каб прамовы гаварыліся па-пісанаму, і зусім не ведаем душы чалавека, яго пачуццяў. А без гэтага не можа быць поспеху. Сход гэты навучыў мяне больш уважліва ставіцца да людзей, меркаваць аб іх якасцях не па словах, а па справах, учынках.

Паўлюк ПРАНУЗА

## Наш комсамольскі аганёк

Зіма сцюдзёная, сівая,
Рыпіць пад лыжамі сняжок.
Мароз не страшны:
Саграваe
Нас комсамольскі аганёк.

Грукоча трактар — даль спявае,
Над радыятарам — сцяжок.
Заранкай светлаю палае
Наш комсамольскі аганёк.

Была пустэча — вырас горад,
Заліў агні электраток.
У вокнах вечарамі зоры —
Наш комсамольскі аганёк.

Ідзем праз горы, стэпы, воды,
Ці мы будуем новы дом, —
Галоў не хілім, бо заўсёды
Мы з комсамольскім аганьком.

## Фатограф

Ён доўга выбіраў мясціну,
Развесіў палатно ў цяньку.
На ім і горы і расліны —
Далёкі, незнаёмы кут.

— Ну, як, дзяўчаты, вам па густу
Вось гэтакі цудоўны фон?
Яны ў адказ: — А тут не пустка,
Прызнацца, недарэчы ён.

Нам дэкарацыі не трэба,
Перад вачыма ў нас яна:
У кучаравых хмарках неба,
Сцяной — густая збажына.

Фатографу ажно нялоўка,
Зірнуў наўкол — жыты, як гай.
Запыленыя, у спяцоўках,
Яму дзяўчаты: — Так здымай!

Папраўлі хусцінкі, косы
І ля камбайна сталі ў рад,
Шумела за плячмі калоссе,
За працу славячы дзяўчат.

Хай дома бачаць, як стваралі
На цаліне пейзаж другі.
Мы абжыліся на Алтаі,
Для нас ён родны, дарагі.

### Вечар у «Чырвоным партызане»

Гармонік захліпаўся ад шалёнага тэмпу.

Гарманіст, чубаты, каржакаваты хлопец, час-ад-часу выціраў пот. У цесным крузе дзве пары, спаборнічаючы, старанна вытанцоўвалі польку. Не паспеў я ўвайсці, як моладзь расступілася, даючы мне дарогу. Тут-жа з покута паднялася дзяўчына, прапануючы мне месца. Усё рабілася па даўно завучанаму плану. Відаць, моладзь прывыкла да таго, што комсамольскі работнік, прыходзячы на вечар, садзіўся на кут і з постным выразам твару наглядаў, як танцуе моладзь. Няма чаго і казаць, выдатная характарыстыка!

— Дзякую, але на вечарынку ходзяць не сядзець. Вось калі прапануеце станцаваць польку — не адмоўлюся.

— Калі ласка, калі ласка, — дзяўчына разгубілася і села на месца.

— Раз вы падняліся, то пойдзем танцаваць.

Гарманіст, які перастаў было іграць, расцягнуў мяхі і сыпануў такую хуткую польку, што я падумаў: хоць-бы з такту не збіцца. Але ўсё абышлося добра. Пасля полькі мы разгаварыліся. Завуць дзяўчыну Вольга Боган. Яна звеннявая па ільну.

— Комсамолка?

Дзяўчына пачырванела.

— Не яшчэ.

— Чаму-ж?

— Са мной ніхто пра гэта не гаварыў...

Вакол нас сабралася чалавек дзесяць. Спачатку прыслухоўваліся, а потым непрыкметна далучаліся да гутаркі.

— Танцы ўжо абрыдлі.

— А што цяпер у В'етнаме адбываецца?

Я якраз падрыхтаваў невялікі даклад аб бягучым моманце, таму пытанне мяне не застала знянацку. Пачаў расказваць. Народу прыбавілася

— Гучней гаварыце, — просяць.

— А можа, таварыш Дзянішчык, вы зараз і расказалі-б нам пра міжнароднае становішча, — прапанавала Валянціна Яраш.

— Калі моладзь згодна, калі ласка. Але-ж, можа, танцаваць хочуць? — кажу я.

— Натанцуемся яшчэ...

Даклад мой заняў хвілін сорак-пяцьдзесят. Усе слухалі ўважліва. Задавалі мне многа пытанняў. Непрыкметна перайшлі на ўнутраныя тэмы.

— Мала яшчэ нас. А ўсё таму, што комсамольская арганізацыя слаба вядзе палітыка-масавую работу, — сказала Валянціна Яраш.

— Я даўно ўступіла-б у комсамол, ды не ведаю, як гэта зрабіць, — сказала Вольга Боган.

— Прыходзь заўтра да мяне, — прапанавала Валянціна.

— А можа, лепш мы зойдзем да Вольгі ў госці? — запытаўся я.

Пасля гутаркі танцы прадаўжаліся. Я не прапусціў ні аднаго з іх. Затое колькі расказалі мне дзяўчаты такога, чаго пры афіцыйных размовах за месяц не даведаўся-б: у каго якія схільнасці, хто жадаў-бы спяваць у хоры, хто ўмее добра танцаваць, чаму некаторыя дзяўчаты не ўступаюць у комсамол, а некаторыя нават ходзяць у касцёл або царкву. Усё гэта дапаможа мне ў далейшым весці палітыка-масавую работу дыферэнцыявана.

Назаўтра мы наведалі Вольгу Боган. Дзяўчына падала заяву ў комсамол. Усяго ў шостай брыгадзе ў комсамол уступіла дзевяць чалавек.

### Работа інструктара пачэсная

Раніцай я саджуся на веласіпед, еду ў адну з пярвічных комсамольскіх арганізацый. У калгасе мяне сустракаюць, як жаданага госця. Сакратар камітэта комсамола просіць расказаць аб навінах у раёне, аб усім новым у другіх пярвічных арганізацыях. Сакратару брыгаднай арганізацыі трэба дапамагчы правесці комсамольскі сход. Групорг цікавіцца тым, якую трэба весці ў групе дакументацыю. Моладзь хоча паслухаць даклад пра міжнародныя падзеі, пра навіны спорту. Каб адказаць на ўсе пытанні, трэба многа ведаць, трэба быць у курсе ўсіх спраў. Нельга ні на хвіліну забываць, што комсамольская работа творчая, што метады і формы тут вельмі часта мяняюцца. Трэба заўсёды прыкмячаць новае, але не выпускаць з поля зроку і недахопы, што даволі часта трапляюцца.

Сакратар комсамольскай арганізацыі калгаса «Чырвоны партызан» Васіль Гуль здаваўся мне ўзорам комсамольскага актывіста. Рухавы, жыццерадасны, баявы, ён усюды паспяваў, усюды чуўся яго голас, усюды адчувалася яго рука. Я не раз ставіў Васіля ў прыклад другім. Адно мяне крыху непакоіла: справы ў комсамольскай арганізацыі ішлі не вельмі добра.

— Прыглядзься ты лепш да работы Васіля Гуля, — параілі мне ў райкоме комсамола. — Стварылі вакол хлопца арыёл славы, усе глядзяць на яго ўлюбёнымі вачыма і не заўважаюць недахопаў.

— Недахопы ў кожнага ёсць, — заўважаў я.

— Калі ёсць, тады выпраўляйце іх.

Едучы ў калгас, я стараўся прыпомніць, якія ў Васіля ёсць недахопы, але так і не мог. Васіля знайшоў у клубе. Комсамолец прыбіваў да сцяны лозунг, а Васіль наглядаў за яго работай.

— Не так, не так, — крычаў ён і нарэшце, не вытрымаўшы, скамандаваў: — Злазь! Гора мне з вамі, нічога не ўмееце, усё самому трэба рабіць.

Гэта было для мяне адкрыццём. Пачаў прыглядацца: сапраўды, Васіль усё робіць сам. Члены камітэта і намеснік у яго на пабягушках. У комсамольцаў ніякай ініцыятывы: усе чакаюць, што скажа сакратар. Адкуль-жа тут могуць быць справы?

А як часта здараецца, што з ад'ездам, скажам, на вучобу сакратара комсамольская арганізацыя адразу занепадае. У райкоме кажуць: няма добрага сакратара. А пра тое не падумаюць, што загадзя не была падрыхтавана добрая замена. Вось пра гэта і павінен клапаціцца інструктар райкома.

Колькі яшчэ ў нашай рабоце фармалізму! Сход праводзіцца для таго, каб адзначыць у справаздачы, што ён праведзены. На ферму пасылаюцца людзі, якія не прынясуць там карысці. У палітгуртку лічыцца дваццаць чалавек, а вучацца пяць, і г. д. і г. д.

Зусім відавочна, што, не пазбавіўшыся фармалізму, казёншчыны, немагчыма дабіцца сур'ёзных поспехаў у выхаванні моладзі. Дапамагчы райкому ў гэтым закліканы інструктар, які бліжэй за ўсё стаіць да пярвічнай арганізацыі.

Н. ЦІМОШАК

# БАГАТЫ ГОД

Дуся Кобзева ўбегла ў пакой, прамоклая да ніткі. Дождж на двары ліў густы, спорны — як з вядра. Хуценька распрануўшыся, дзяўчына прысела ля стала.

З рэпрадуктара лілася нейкая на дзіва знаёмая музыка. «Ды гэта-ж Хачатуран, — папракнула сябе Дуся. — Забываць пачала, ці што?» Гэтая мелодыя яе некалі захапляла. Яна чамусьці выклікала ва ўяўленні шырокую сонечную дарогу, па якой ідзе яна сама — Дуся; ідзе ўперад і ўперад, а перад ёю шумяць-калосяцца жыты, расступаюцца зялёныя лясы, рассцілаюцца духмяныя сенажаці...

Пасля заканчэння Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі заатэхніка Дусю Кобзеву накіравалі працаваць у Міністэрства сельскай гаспадаркі. Прызначэнне ёй спачатку спадабалася. Як-ні-як — супрацоўнік Міністэрства! А далей пайшлі доўгія справаздачы і ўсё лічбы, графы, калонкі новых лічбаў. «Так можна і прафесію забыць», — не раз думала Дуся.

Пастанова Вераснёўскага Пленума ЦК КПСС сказала дзяўчыне пра многае. Тады яна добра зразумела: сапраўды, месца спецыяліста — на вытворчасці, на жывой рабоце, а не ў канцылярыі.

Кобзеву накіравалі ў Слуцк. У райкоме ёй прапанавалі застацца працаваць у калгасе імя Першага мая. Калгас гэты перадавы і моцны галоўным чынам за кошт прыбыткаў ад жывёлагадоўлі.

— Клопатаў вам хопіць і ў «Першым маі», — сказала дзяўчына ў райкоме. — У перадавым калгасе працаваць нялёгка — трэба шмат ведаць і за многае адказваць. Ды і старшыня тут — чалавек патрабавальны. Некалькі заатэхнікаў за гэтыя гады перамянілася. У адных вопыту нестывала, другія проста спасавалі перад цяжкасцямі. Адным словам, жадаем поспехаў, і калі якая замінка — не мінайце райкома...

Першая сустрэча са старшынёй якраз і пацвердзіла тое, аб чым гаварылі Дусі Кобзевай. Васіль Паўлавіч Козел паглядзеў на дзяўчыну доўгім выпрабавальным позіркам і, як ёй здалося, не надта ветліва прывітаўся. Ружовашчокая, з кірпатым носам, дзяўчына, відаць, не нагадвала яму таго вопытнага і бывалага спецыяліста, якога ён чакаў.

Сельскагаспадарчы год быў на зыходзе, і дзяўчыне давялося пачынаць работу са складання кармавога балансу. Узброіўшыся інструкцыямі, дапаможнікамі, яна засела за працу. Ёй хацелася прадугледзець усё: ад мінеральнай падкормкі да калярыйных канцэнтраваных кармоў. Галоўнае, каб быў поўнавагавы рацыён на ўвесь стойлавы перыяд.

Тыдні праз два дзяўчына прынесла баланс да старшыні. Ён прабег вачыма назвы кармоў, калонкі лічбаў і адклаў дусіну працу ўбок.

— Неэканомная вы гаспадыня, — сказаў Васіль Паўлавіч. — Трэба зрабіць так, каб усякі корм выкарыстоўваўся і каб поўнавагавы рацыён быў.

Дусі здавалася, што жывёлаводы роўнадушна сустрэлі яе. У першыя-ж дні адбылася непрыемная сутычка з загадчыкам фермы ў першай брыгадзе — Матусевічам. Дзяўчына заўважыла непарадак у выдаткаванні кармоў і патрабавала неадкладна наладзіць справу як належыць. Хіба-ж можна дапускаць безгаспадарлівасць, ды яшчэ ў перадавым калгасе! На першы раз Матусевіч адмаўчаўся і хоць мала што, але зрабіў. Крыху пазней Дуся заўважыла, што і ўлік малака на ферме вядзецца не так як трэба. Ніхто дакладна не ведае, якая карова колькі дае малака, бо раздзельнага ўліку няма

— Ведаеце што, — ужо зусім строга звярнулася яна да Матусевіча. — Каб гэтай анархіі больш не было. Гэта-ж ліха ведае што...

— Не вы тут першая, не вы і апошняя, — агрызнуўся загадчык. — Што ні год, то новы начальнік, і кожны са сваімі парадкамі лезе. Дзесяць разоў пачыналі гэты ўлік і дзесяць разоў кідалі.

— Цяпер не кінеце! Будзе і ў вас, як ва ўсіх брыгадах, — адказала дзяўчына.

У другой брыгадзе справы пайшлі лепш з самага пачатку. Загадчык фермы Дарафей Пятровіч Бясчасны з першага дня чула паставіўся да заатэхніка. Ён паслухмяна выконваў яе парады і ўказанні, і дзяўчына заўсёды вясялела, калі прыходзіла на гэтую ферму.

Крыху пазней Дуся наладзіла сувязь з моладдзю, з камсамольскай арганізацыяй. На фермы пайшлі найбольш пісьменныя, ініцыятыўныя камсамольцы. Першай прыйшла Фаня Крывадубская, энергічная дзяўчына, якая толькі што закончыла сямігодку. З ёй у Дусі пачалася сапраўдная дружба. Фаня моцна палюбіла сваю працу даяркі. Яе цікавіла шмат што з заатэхнікі: як павысіць надоі, які корм самы карысны, навошта ўводзіцца строгі рацыён.

Фаня працавала на ферме другой брыгады, дзе ўмовы былі найгоршымі. Тут старыя памяшканні, няма яшчэ ніякай механізацыі. Таму Дусі было асабліва прыемна, што энтузіястка Фаня працуе іменна на гэтай ферме, дзе асабліва былі патрэбны такія людзі. Няўпэўненасць Дусі ў сваіх сілах пачала праходзіць. У калгасе было шмат людзей, якія чула прыслухоўваліся да ўсяго новага, перадавога. Даяркі Анатолія Шутава, Анна Лук'янава, Яўгенія Крывадубская з самага пачатку лактацыі паставілі сваіх кароў на раздой, старанна шукалі шляхоў, каб павысіць надоі малака.



Даярка Алена Паўлоўская і заатэхнік Дуся Кобзева.

Дрэнна было толькі з Матусевічам. Ён у прамыя спрэчкі цяпер ужо не ўступаў і нібы згаджаўся з усім, што гаварыла Дуся. Але для паляпшэння справы не ўдарыў палец аб палец. Ферма яго хоць і механізаваная — ёсць электрычнасць, аўтапаенне, найлепшая ў калгасе кормакухня, — але прадуктыўнасць жывёлы тут была нізкай. Усё ішло самацёкам.

— Ці-ж можа працаваць такі загадчык у перадавым калгасе, — абурана сказала Дуся членам праўлення. — Ён-жа нам усю справу тармозіць. Ніякай зацікаўленасці ў рабоце ў яго няма.

— Я хворы чалавек, што вы ад мяне хочаце, — спрабаваў апраўдацца загадчык. — Папрацавала-б сама, як я.

— Ну, ты сядзь, працаўнік, — абрэзаў Матусевіча старшыня. — Ведаем ужо цябе не першы год. Вартаўніком на могілках можа-б і быў добрым.

— Замяніць Матусевіча трэба, — вырашылі на праўленні. — Але кім?

— Сяргея Ясеева трэба загадчыкам паставіць, — настойвала Дуся. — Ініцыятыўны камсамолец, сямігодку скончыў.

— А брыгада цесляроў — хіба гэта не калгас? — кінуў нехта рэпліку.

— Туды лягчэй чалавека знайсці. Ферма сёння самы галоўны ўчастак.

На праўленні згадзіліся з заатэхнікам. Матусевіч, насунуўшы шапку на самыя вочы, нездаволена бразнуў клямкай. Загадчыкам прызначылі Сяргея Ясеева.

Прыход новага маладога і настойлівага работніка ажывіў справу. Праўда, некаторыя з даярак, што прызвычаіліся да Матусевіча, сустрэлі новыя парадкі на ферме ў штыхі.

— Гэта-ж дзеля якой карысці я буду па дваццаць разоў на дзень бегаць ад каровы да малакамера, — злавалася ўедлівая Марыя Чыж. — Надзявай фартух ды сам станавіся за даярку.

— Не лайся, цётачка, — Сяргей Ясееў быў чалавекам абыходлівым і памяркоўным. — Вось мы табе цялё за дадатковы надой вызначым, тады зразумееш усё. Мы-ж павінны ведаць, колькі кожная карова малака дае. А то можа якая-небудзь карова толькі дарэмна корм зводзіць. Тады яе лепш на каўбасы...

Неяк Дуся прыйшла на ферму з газетай «Сельская гаспадарка», дзе быў змешчаны цікавы артыкул аб тым, як лепш павысіць надоі малака. У артыкуле рэкамендавалася перайсці на чатырохразовае даенне. Даяркі выслухалі артыкул моўчкі. Хоць яны і згадзіліся, што даіць сапраўды лепш чатыры разы ў дзень, але асаблівай ахвоты да новай справы ў іх не было. Яно і вядома — уставаць на працу трэба было раней, а дамоў ісці з фермы — пазней. Праца-ж даяркі нялёгкая, асабліва зімой.

Усё-ж новы распарадак паступова пачынаў усталёўвацца, хоць з-за марозных зімовых дзён і не асабліва адчувалася яго перавага над распарадкам ранейшым. Аднойчы лютаўскай раніцай на ферму заглянуў Васіль Паўлавіч Козел.

— Замарыла нас гэтая заатэхніка зусім, — залемантавала Марыя Чыж. — Сну-пакою не маем. Дазволь нам, старшыня, як і раней, тры разы на дзень даіць. Прыбытку ад гэтых чатырох даенняў не бачна, сам паглядзі. Адно — толькі вымя карове навярэдзіш. Мы-ж і так уперадзе ўсіх калгасаў па надоях ідзем. Людзі па два разы дояць...

— Даіце па-ранейшаму, — дазволіў старшыня.

Дуся пра гэты дазвол не ведала. Яна ішла на працу з радаснай думкай, што зараз усе сем фермаў перайшлі на новы распарадак. Вестка пра тое, што сам старшыня адмяніў яе пачынанне на ферме першай брыгады, да глыбіні душы ўразіла і пакрыўдзіла дзяўчыну.

— Вось што, Васіль Паўлавіч, — зайшоўшы да старшыні, сказала яна ціхім, прыглушаным голасам, — так дзейнічаць нельга. Вы — старшыня, я — заатэхнік. Мы абодва працуем для калгаса. А вы сёння зрабілі калгасу шкоду...

— Прабач, Дуся, вінават, — старшыня упершыню назваў яе па імені. — Больш гэтага не

будзе. Думаў, хай адпачнуць людзі, нельга-ж так крута новыя парадкі наводзіць. Памыліўся. Ідзі і камандуй па-свойму.

Лёгка сказаць «камандуй па-свойму». Дуся ішла на ферму нейкая вялая, прыдаўленая. Хіба-ж яна старалася для сябе, хіба старшыня не разумее гэтага? Як-жа цяпер ёй паказацца перад жывёлаводамі? Не паспела яна пераступіць парог, як на ферму з'явіўся Васіль Паўлавіч.

— Падвяла ты мяне, сакатуха, — строга сказаў ён Марыі Чыж. — Памыліўся я, калі адмяніў распарадак заатэхніка. Больш гэтага не будзе. На фермах слова заатэхніка — закон...

Быў наведзены строгі парадак у кармленні. Дуся пільна сачыла, каб кармавы рацыён захоўваўся няўхільна, каб у кармленні, паенні жывёлы не было ніякіх выпадковасцей.

Надоі ад цвёрдага распарадку ў кармленні, ад чатырохразовага даення пачалі расці ўвачавідкі. Марыя Чыж, пабачыўшы гэта, утаймавалася. Яна нават пачала акуратна хадзіць на заняткі заатэхнічнага гуртка. Калі з верасня Дуся загадала перайсці зноў на трохразовае даенне, Марыя Чыж з Серафімай Пісарык папрасілі дазволу даіць сваіх кароў яшчэ два тыдні па чатыры разы.

Дасканалы ўлік надою ад кожнай каровы даў шмат карыснага. Павысілася аплата працы не толькі даярак, але і пастухоў. Яны праяўлялі цяпер шчырую цікавасць да надояў.

Неяк прышлі да Дусі пастухі з шостай брыгады Сяргей Логінаў і Ілья Пацыкайлік. Быў ліпень, гарачыня стаяла нясцерпная.

— А што, калі мы кароў не ў сем гадзін, а ў чатыры ці ў пяць выганяць будзем, — сказаў, падбіраючы кожнае слова, марудлівы Ілья. — А вечарам таксама папасем на гадзіну больш. Днём-жа заядзь, карысці мала ад пашы, няхай лепш каровы ў хлявах пастаяць...

Прапанова была разумнай, і яна ўзрадавала Дусю.

— Малайцы вы, — сказала яна пастухам. — Начная пасьба даўно прымяняецца ў перадавых калгасах. Ва ўсім калгасе такі парадак увядзем...

Лета прайшло, неспакойнае, гарачае... І вось хутка на змену дажджу зацярушацца ў паветры белыя сняжынкі. Надвор'е такое, як і тады, калі яна ўпершыню прыехала ў калгас. Год работы прайшоў хутка, нават, калі падумаць, дык проста праляцеў. Шмат чаго зразумела яна ў сваёй рабоце і цяпер адчувае, што цвёрда стаіць на нагах. Новы баланс, ва ўсякім разе, перарабляць не прыдзецца. Прыбытак ад жывёлагадоўлі перавысіў 2,5 мільёна рублёў, гэта амаль удвая вышэй мінулагодняга. Надой на карову 2 080 літраў — на 500 літраў больш, як летась. Зноў-жа кармоў нарыхтавана куды больш леташняга. Аднаго сіласу ёсць 1200 тон. Гэтага летась не было. На 50 гектарах прыфермскіх участкаў вырашчаны багаты ўраджай коранеплодаў. Грубых кармоў таксама больш, як летась. Калгас стаў удзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Ёсць, безумоўна, і ёе, Дусі Кобзевай, заслуга ў гэтых справах.

У пакой убегла Фаня Крывадубская.

— Вам старшыня наказваў, — весела зашчабятала яна, — рыхтавацца да нарады перадавікоў. Каб добра, кажа, падрыхтавалася: увесь-жа раён слухаць з'едзецца. І мне выступіць трэба, сказаў. А як я выступлю, што я скажу?

— Выступіш, — Дуся засмяялася. — Выступіш і раскажаш, як ты надаіла па 2 613 літраў малака ад каровы. Здаецца-ж, проста?

— Ой, Дусечка, я-ж ніколі не выступала, я-ж магу спалохацца.

Праз колькі хвілін заатэхнік і даярка сядзелі за сталом галава к галаве, успаміналі пра самае галоўнае ў рабоце, пра што яны абавязкова павінны расказаць на нарадзе перадавікоў. З рэпрадуктара лілася баявая, бадзёрая музыка.

**Калгас Імя Першага мая**
**Слуцкага раёна**
**Мінскай вобласці.**

# ЛЕПШЫ СЯБРА МОЛАДЗІ

**Да 20-й ГАДАВІНЫ З ДНЯ ЗЛАДЗЕЙСКАГА ЗАБОЙСТВА С. М. КІРАВА**

...Студзень грознага 1905 года. Сібірскі горад. Пахаванне рабочага, забітага жандарамі ў той момант, калі ён нёс чырвоны сцяг. Гэты скрываўлены сцяг зноў над калонай. А па радах з рук у рукі пераходзіць лістоўка. «Турмы і шыбеніцы, — гаворыцца ў ёй, — не запалохаюць рабочы клас, штыхі і кулі не спыняць рэвалюцыйнага руху пралетарыята».

Уперадзе калоны ідзе юнак — Сяргей Кострыкаў. Гэта ён, рызыкуючы жыццём, выратаваў сцяг. Гэта ён і яго адважныя сябры напісалі заклікаючую на бой з самаўладствам лістоўку.



С. М. Кіраў.

... Студзень незабыўнага 1934 года. Вялікі Крэмлёўскі палац. У зале — прайшоўшыя суровую школу жыцця партыйныя дзеячы, убелёныя сівізной вучоныя, загартаваныя ў баях ваенныя, вядомыя ўсёй краіне пісьменнікі, прадстаўнікі гераічнага рабочага класа, слаўнага сялянства — увасабленне ўсяго найлепшага, што ёсць у народзе. Адбываецца XVII партыйны з'езд. Дэлегаты падводзяць вынікі пераўтваральнай дзейнасці працоўных мас, партыі па будаўніцтву ў Краіне Саветаў сацыялізма.

З палымянай жыццесцвярджальнай прамовай выступае на адным з пасяджэнняў з'езду кіраўнік ленінградскіх бальшэвікоў Сяргей Міронавіч Кіраў. Яркімі фарбамі малюе ён карціну барацьбы, якую разгарнула партыя, пачаўшы рашучае наступленне па ўсяму фронту на капіталістычныя элементы горада і вёскі. Гаворачы аб атрыманых перамогах, Кіраў з асаблівай сілай падкрэслівае, што яны былі дасягнуты наперакор прадраканням апазіцыянераў, усім іх спробам раскалоць рады барацьбітоў за сацыялізм.

— Поспехі сапраўды ў нас велізарныя, — усклікае ў захапленні Кіраў, — чорт яго ведае, калі па-чалавечы сказаць, так хочацца жыць і жыць. На самой справе, паглядзіце, што робіцца. Гэта-ж факт!

Громам апладысментаў сустракае зала словы любімца партыі і ўсяго савецкага народа...

Мужным і смелым, непахісным і нястомным у барацьбе за лепшую будучыню, за шчасце народа быў Сяргей Міронавіч Кіраў да апошняга свайго дыхання.

Сяргей Міронавіч Кіраў нарадзіўся ва Уржуме 15 (27) сакавіка 1886 года ў працоўнай сям'і. Яшчэ будучы падлеткам Кіраў збліжаецца тут з палітычнымі ссыльнымі, якія і далучылі яго да рэвалюцыйнай дзейнасці. У канцы 1904 года С. М. Кіраў уступае ў бальшэвіцкую групу Томскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі, а з ліпеня 1905 года становіцца членам Томскага камітэта РСДРП. Кіпучую дзейнасць разгортвае Кіраў у гады першай рускай рэвалюцыі. Ён кіруе палітычнай дэманстрацыяй у Томску, забастоўкай чыгуначнікаў на станцыі Тайга. Ужо ў тыя гады С. М. Кіраў паказаў сябе рэвалюцыянерам-барацьбітом ленінскага тыпу.

На працягу раду гадоў, пачынаючы з 1909 г., Сяргей Міронавіч вядзе падпольную работу сярод рабочых Уладзікаўказа (цяпер Дзаўджыкаў) і горскай беднаты на Поўночным Каўказе. У гады першай сусветнай вайны С. М. Кіраў наведвае гарады, аулы, сёлы Поўночнага Каўказа, збірае сілы бальшэвікоў, рыхтуе масы да барацьбы супраць царскага самаўладства, супраць ладу эксплуатацыі і нажывы.

С. М. Кіраў — актыўны ўдзельнік Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Ён прысутнічаў на гістарычным II з'ездзе Саветаў у якасці дэлегата Уладзікаўказа і Кабарды. З іменем Кірава звязана гераічная абарона Астрахані ў гады грамадзянскай вайны.

У ліпені 1921 года па рэкамендацыі Цэнтральнага Камітэта партыі С. М. Кіраў выбіраецца сакратаром ЦК партыі Азербайджана. Пачалася новая паласа ў дзейнасці Сяргея Міронавіча — перыяд нястомнай барацьбы за ўмацаванне партыйных арганізацый Закаўказзя, за ажыццяўленне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі Комуністычнай партыі, за аднаўленне разбуранай вайной і інтэрвенцыяй народнай гаспадаркі, за адраджэнне і развіццё нафтавай прамысловасці.

Талент выдатнага дзеяча ленінскага тыпу С. М. Кірава асабліва ярка разгарнуўся ў перыяд яго работы ў Ленінградзе. У 1926 годзе партыя даверыла Кіраву высокі і адказны пост — пасаду першага сакратара Ленінградскага губкома. Цэнтральны Камітэт паставіў перад ім задачу — «узначаліць ленінградскую партыйную арганізацыю і ачысціць яе ад трацкісцка-зіноўеўскай антыпартыйнай брыдоты» (Молатаў).

Выдатная роля належыць Сяргею Міронавічу ў ажыццяўленні планаў партыі па асваенню прыродных багаццяў савецкай Поўначы. Многа сіл і ўвагі аддаў ён справе вывучэння Кольскага паўвострава і арганізацыі распрацоўкі багацейшых залежаў апатытаў у Хібінскай тундры, будаўніцтву Мурманскіх рыбных промыслаў. Шырока вядомы актыўны ўдзел Сяргей Міронавіча ў збудаванні Беламорска-Балтыйскага канала.

Сяргей Міронавіч быў палымяным прапагандыстам вучэння Маркса — Энгельса — Леніна — Сталіна. Ён указваў, што марксізм-ленінізм — гэта сапраўды адзіная навука, якая вучыць працоўных перамагаць сваіх ворагаў. Ён заклікаў падыходзіць да вывучэння рэвалюцыйнай тэорыі творча, крыміў начотніцтва і дагматызм.

Кіраў заўсёды многа думаў аб моладзі і многа рабіў для яе. Ён называў комсамол усходамі, што выраслі на савецкай ніве. З моладзі ён расціў актыўных, пісьменных, перакананых будаўнікоў комунізма. Як уважлівы бацька і вопытны педагог, Сяргей Міронавіч ведаў характар нашай моладзі, яе накіраванні, схільнасці. Ён, калі трэба, гаварыў комсамольцам адкрыта аб іх недахопах. У моладзі многа чуласці, энергіі, зазначаў ён, але бывае часам і так, што пасля першага напору праходзіць кароткі прамежак часу, — комсамольскі порах згарае і далей пачынаецца адкат — нехапае ўпорства, вытрымкі, таго самага бальшэвіцкага элементу, што з'яўляецца адметнай рысай для нашай комуністычнай партыі, якая ўмее і націснуць, і ў той-жа час усякую пачатую справу абавязкова давесці да канца.

Дваццаць год прайшло з таго дня, калі здрадніцкая рука трацкісцка-зіноўеўскіх вылюдкаў абарвала кіпучае жыццё Сяргея Міронавіча Кірава — палымянага трыбуна, выдатнага дзеяча Комуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы. Але памяць аб ім жыве і будзе заўсёды жыць у сэрцах мільёнаў працоўных. Жыццё і дзейнасць Кірава для нас, як і для наступных пакаленняў, з'яўляецца яркім прыкладам высокароднага служэння народу, сацыялістычнай Айчыне, справе комунізма.

В. СЯРГЕЕЎ.



# Юннаты з Пярэжар

Фотанарыс А. Дзітлава.

У Рудзенскім раёне Мінскай вобласці ёсць сяло Пярэжары. У Пярэжарах—школа-дзесяцігодка. У ёй — гурток юннатаў. Існуе ён 15 год.

З захапленнем працавалі ўсе гэтыя гады пярэжарскія юннаты. За што толькі ні браліся яны, чаго ні рабілі! Вырошчвалі, напрыклад, дзічкі яблынь. Садзілі бульбу. Сеялі кармавыя буракі, моркву, лён, пшаніцу. Здабывалі тарфяную крошку. Працавалі на палявых работах у калгасе...

Ішоў год за годам. Юныя натуралісты пераходзілі з класа ў клас, лік іх увесь час узрастаў. Да 1952 года ў гуртку налічвалася сто сорак сем чалавек. Праз год юннатаў у Пярэжарах стала ўжо дзвесце семдзесят. Цяпер іх больш трохсот. У гэтым годзе ў Пярэжары прышла хвалюючая вестка: гурток зацверджан удзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Бяззменны кіраўнік гуртка, дырэктар школы Васіліса Васільеўна Гурыновіч і многія з юннатаў атрымалі асабістае права ўдзелу ва Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы.

Аднафамільцы і цёзкі, двое Анатоляў Кліндзюкоў вырошчвалі бульбу. Ураджай склаў каля 300 цэнтнераў з гектара. Саша Прохарчык вырасціў дзічкі яблынь і груш і заклаў гадавальнік на плошчы 150 квадратных метраў. З вырашчаных ім 675 саджанцаў 653 былі перададзены калгасу. Валя Сапун правяла вопыт ператварэння азімай пшаніцы ў яравую і атрымала ўраджай 26 цэнтнераў пшаніцы з гектара. Яна-ж атрымала высокі ўраджай ільну-даўгунцу. Лена Івановіч і Ніна Забаўская ўжо некалькі год атрымоўваюць высокія ўраджаі капусты. Яны здымаюць з гектара па шэсцьсот і больш цэнтнераў выдатных качаноў. Іна Гарэльчык і Тася Лінік вырошчвалі цыбулю і моркву. Вынікі іх працы таксама вялікія. У характарыстыцы, складзенай выставачным камітэтам аблвыканкома, запісана: «Увесь ураджай морквы перададзены калгасу для насеннікаў. Насеннікі высаджаны юннатамі на калгасным гародзе».

Тыя, хто быў заснавальнікамі гуртка, даўно атрымалі атэстаты сталасці і рассталіся з роднай школай. Але многія з іх назаўсёды засталіся вернымі любімай справе. Гэтай вясной Пярэжарская школа праводзіла ў жыццё чарговы атрад былых юннатаў. Рэгіна Васкабовіч паехала вучыцца ў сельскагаспадарчую акадэмію, Косця Жолуд і Мірон Крук паступілі ў зоатэхнічную школу. Некалькі юнакоў вырашылі стаць механізатарамі сельскай гаспадаркі.



Непадалёку ад Пярэжар размешчана Беларуская селекцыйная станцыя. Школьнікі — у прыватнасці выпускнікі — частыя госці вучоных. Юнакі і дзяўчаты ўважліва знаёмяцца з вопытамі і даследаваннямі, падоўгу, з веданнем справы, размаўляюць з работнікамі станцыі. Немалая доля поспехаў пярэжарскіх юннатаў выклікана гэтым блізкім знаёмствам. Нямала рашэнняў стаць аграномам, жывёлаводам, механізатарам было прынята ў выніку наведвання лабараторый і вопытных палёў.

Пярэжарскія дзесяцікласнікі маюць шмат магчымасцей, каб як мага шырэй азнаёміцца з асаблівасцямі працы спецыялістаў сельскай гаспадаркі. Адной з такіх магчымасцей з'явілася абласная сель-









скагаспадарчая выстаўка гэтага года. Многія пярэжарскія школьнікі пабывалі на гэтай выстаўцы, але самымі ўважлівымі і цікаўнымі наведвальнікамі з іх былі выпускнікі.

На нашых здымках паказана прабыванне юных пярэжарцаў на абласной сельскагаспадарчай выстаўцы. З цікавасцю аглядалі юннаты шматлікія стэнды, уважліва выслухоўвалі тлумачэнні экскурсаводаў. Атрымаўшы дазвол, яны падымаліся на рабочыя месцы камбайнераў, на практыцы знаёміліся з будовай навейшых машын. Яны распытвалі пра вопыт перадавікоў, уносячы доўгія запісы ў свае блакноты. І кожнаму, хто наглядаў на выстаўцы гэтую ажыўленую групу, было зразумела, што гэта не проста цікаўныя экскурсанты. Юныя пярэжарцы, якія прайшлі падрыхтоўку ў гуртку юннатаў, адчувалі сябе на выстаўцы як удзельнікі вялікай агульнанароднай справы, мэта якой — багацце, росквіт, мір.





На здымках: 1. Саша Кукарэка (злева) і Валя Сапун у павільёне Беларускай селекцыйнай станцыі. 2. Група пярэжарцаў слухае расказ навуковага супрацоўніка Беларускай селекцыйнай станцыі І. Ф. Каваленкі. 3. Іна Коўзель знаёміцца з вынікамі працы соўгасных агароднікаў. 4. Алег Кукарэка (сядзіць) і Васіль Рысь вывучаюць будову сіласнага камбайна; злева — старшы інжынер абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі Г. І. Сяргееў. 5. У павільёне калгаса «Совецкая Беларусь». 6. Удзельнікі Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі Аляксандр Прохарчык (злева) і Анатоль Кліндзюк ля павільёна лясной гаспадаркі. 7. Ля буракаўборачнага камбайна выпуску 1954 года. На месцы вадзіцеля — Анатоль Кліндзюк. 8. Старшы ветэрынарны ўрач Мінскай дзяржаўнай канюшні В. М. Кірпічэнка паказвае пярэжарцам цяжкавоза-жарабца «Цэпкага», які перавозіць да 11 тон грузу. 9. Комсамолец-селекцыянер Уладзімір Сямёнаў, разгаварыўшыся аб прафесіі агранома, горача рэкамендаваў юннатам прысвяціць сваё жыццё сельскай гаспадарцы.



**А. і Ч. ЦЭНТКЕВІЧЫ**

# БОЦМАН МЕЎ РАЦЫЮ

**Раздзел з кнігі «У ільдах Эйсфіорду»**

Мал. Е. Ціхановіча



Нядаўна ў Мінску гасціла дэлегацыя Таварыства польска-савецкай дружбы. Сярод дэлегатаў знаходзіўся польскі пісьменнік Ч. Цэнткевіч. Рэдакцыя часопіса «Маладосць» звярнулася да яго з просьбай выступіць перад нашымі чытачамі.

Ніжэй мы друкуем урывак з яго аповесці «У ільдах Эйсфіорду» аб гераічнай дзейнасці эпронаўцаў у 30-х гадах.

Мароз мацнеў. Яркія праменні сонца пераламляліся ў краях ледзяных глыб, што выступалі з суцэльнай масы лёду, якая пакрывала затоку.

Вяршыні, скаты гор і паверхня затокі ўтваралі вялікую ледзяную паласу, якая засланяла доступ у адкрытае мора. Эйсфіорд упарта змагаўся за сваю ахвяру, ствараючы перад чалавекам усё новыя перашкоды.

З марозам пасябраваў вецер: у адным месцы, як магутнай мятлой, змятаў снег, адсланяючы роўную, бліскучую, як шкло, паверхню, у другім — утвараў глыбокія наносы.

Канал, прабіты ледаколам «Ленін», ужо знік, пакінуўшы за сабой шырокую паласу перавернутых глыбаў і вострых таросаў. Толькі спрактыкаваны боцман мог знайсці дарогу ў гэтым хаосе. Трапным вокам вызначаў ён месца стыку маладога лёду са старым, каб прабіць тратылам канал паміж плітамі двухметровай таўшчыні.

І зноў тыя, што першы раз сутыкнуліся з Далёкай Поўначчу, мелі магчымасць пераканацца, якой цвёрдай і няўступнай з'яўляецца лёдавая маса. Пасля кожнага ўдару адламваліся толькі невялікія, вострыя, як шкло, кавалкі, а шчыліна вельмі павольна паглыблялася.

Федзя біў з усіх сіл, здавалася, што іскры сыпаліся з-пад сталёвага вастрыя. Снежны пыл, які ўздымаўся ветрам, засыпаў яму вочы і вусны, пот сплываў з ілба і замярзаў на брывах, дробныя аскабалачкі лёду апякалі твар, як кроплі вару. Там, дзе ўзрыўчатка была добра закладзена, адбываўся выбух. Лёд адразу трэскаў у дзесятках месц, як тонкі фарфар.

Нягледзячы на мароз і вецер, прыстань была запоўнена. Цэлы пасёлак высыпаў праводзіць «наш» параход — як гаварылі гарнякі. Калі на палубу ўзышоў Грыша з сабакам Тугаем, Федзя чакаў ужо іх. Размаўляючы і гладзячы сабачку, які туліўся да яго ног, хлапец не пакідаў углядацца ва ўсе бакі, нібы некага шукаючы. Гэта не прайшло міма ўвагі Грышы.

— Гаварыў з Наташай, вельмі хацелася ёй прыйсці, але якраз сёння выпала дзяжурства. Прасіла перадаць ад яе сардэчнае пажаданне шчаслівай дарогі ўсім і... табе.

— Дык мы-ж не знаёмы, — буркнуў Федзя збянтэжана.

Грыша засмяяўся.

— Але-ж я павінен усё расказваць ёй аб табе. Вельмі палюбіла Тугая.

Гук сірэны заглушыў апошнія яго словы. Настаў час расставання. Грыша нахіліўся над сабакам, узяў абедзвюма рукамі чорную лахматую галаву.

— Ну, забірай яго. Радуюся, што быў у мяне на працягу некалькіх тыдняў, — сказаў маркотна. Але Федзя ведаў ужо, што яму рабіць.

— Тугай застанецца з табой. Усе яго тут любяць, не толькі ты, — сказаў ён, заўважыўшы слабы рух пратэсту. — Нават тыя дзеці, што ахвотна забаўляюцца з ім. Добра яму тут будзе з вамі.

Грыша не пярэчыў. Праз хвіліну ён заклапочана глядзеў на сябра.

— Дзякую, — сказаў ён нарэшце сардэчна. — Ведаю, што нялёгка дасталася гэта табе, але-ж ты да нас вернешся. А калі не, то я праз год-два вярнуся ў Мурманск, прывязу табе сабаку. Сустрэнемся тут ці там. Паведамі мне, калі вернешся. Летам параходы прывозяць вялікую пошту. — Рукі іх злучыліся ў моцным поціску.

Тугай неспакойна круціўся. Інстынктыўна адчуваючы, напэўна, што гэта незвычайнае расставанне, прыпаў да ног Федзі і жаласна завыў.

Зноў загучала сірэна. Грыша з цяжкасцю выправадзіў сабаку, які моцна ўпёрся лапамі ў дошкі палубы і не даваўся адцягнуць. Сірэна выла нізкім басам. Госці паспешна сыходзілі на прыстань. У марозным паветры перакрыжоўваліся гукі размоў, развітанняў, нейкія апошнія парады і даручэнні. Некаторыя гарнякі глядзелі з зайздрасцю на тых, што адплываюць. Другія прасілі, каб заахвоціць іх таварышаў прыехаць на Шпіцберген. Федзя бачыў яшчэ з палубы, як Тугай усё вырываўся з рук у Грышы. «Прывыкне, забудзе», — суцяшаўся ён, стрымліваючы пачуццё жалю.

Вузкі канал, выкрышаны дынамітам, перашкаджаў ільдзінам рассоўвацца. «Малыгін» з цяжкасцю ўціскаў пад сябе меншыя глыбы лёду, крышыў іх сваім цяжарам і раз-по-разу затрымліваўся перад старымі, тоўстымі лёдавымі палямі.

Паміж узбуджаных эпронаўцаў выдзяляўся заспаны твар боцмана Вайцішчука. Пакрытыя інеем вусы жаласліва апалі ўніз. Ён не выходзіў з насавой часткі парахода.






**Далёка за межамі рэспублікі славяцца беларускія піяніна, якія выпускае Барысаўская фабрыка імя В. М. Молатава. На фабрыцы працуе многа таленавітай, старанкай моладзі. Вось адна з прадстаўнікоў маладога пакалення рабочых — Ніна Трыпуцень. На заводзе комсамолка Трыпуцень з'яўляецца лепшай работніцай. Яна штомесяц перавыконвае нормы пры выдатнай якасці.** На здымку: **Ніна Трыпуцень.**

Фото А. Дзітлава.



**Добра папрацавалі летась калгаснікі сельскагаспадарчай арцелі «Ленінская іскра», Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Затое і выдатна аплацілася іх праца. Многа хлеба, бульбы, грошай атрымалі калгаснікі на працадзень. Усяго не спажывеш са сваёй сям'ёй. Лішкі можна вывезці на базар, а на грошы набыць розныя каштоўныя рэчы: веласіпеды, швейныя машыны, радыёпрыёмнікі і інш. Толькі за два апошнія месяцы калгаснікі набылі адзінаццаць прыёмнікаў розных класаў. Купіла сабе прыёмнік і Тацяна Радкевіч. Цяпер, калі да Тацяны ў госці прыходзіць моладзь, можна паслухаць Маскву, Кіеў, Ленінград, Мінск.** На здымку: (злева направа) **Пётр Хаткевіч, Тацяна Радкевіч, Надзежда Ермалюгіна, Іван Ермалюгін, Дзмітры Радкевіч, Зінаіда Хаткевіч, Яўгені Іваноў.**

Фото Р. Каралёва.

— Гэты лёд — яшчэ толькі забава, — заклапочана мармытаў боцман. — Вось тыя палі з таросамі дадуцца нам у знак. Палова цэментных лат адляціць.

Пры боцману, збіўшыся ў кучу, стоўпіліся «піратэхнікі», як называў капітан Філатаў наймалодшых членаў каманды, прызначаных да гэтай лётнай брыгады. Калі нос судна, як таран, біў у стары лёд і бездапаможна затрымліваўся, «піратэхнікі» зараз-жа па канатных лесвічках спрытна ссоўваліся за барты. Боцман без слоў ударамі сталёвага прута паказваў ім месца, дзе трэба было прабіць шчыліну і залажыць зарад дынаміту. Выбухі адбываліся адзін за другім, расслабляючы лёдавыя палі, а капітан Філатаў выкарыстоўваў кожную новую шчыліну і даваў «поўны ўперад».

Скачучы па раскрышаных, разгойданых, залітых вадой абломках ільдзін, піратэхнікі стараліся ўчапіцца за лесвічку і ўзабрацца на палубу. Часамі адставалі і даганялі параход толькі тады, калі ён зноў натыкаўся на вельмі цвёрдую перашкоду. Аднойчы Федзя пасліznуўся і рынуўся-б у ваду, калі-б яго не падтрымаў Хандзюк, які бег тут-жа.

— Не маю ахвоты пасля вылаўліваць цябе з-пад лёду, таму цяпер дапамог, — растлумачыў ён.

У хуткім часе спраўдзіліся перасцярогі боцмана: далейшая дарога аказалася вельмі цяжкай. Траса, якою паплыў ледакол «Ленін», на працягу двух гадзін цягнулася ўдалячынь. Толькі пасля дзесяці гадзін упартага змагання эпронаўцы апынуліся ў вусці затокі, а гэта быў толькі пачатак рэйса.

Пусты сталёвы карабіу сто разоў узмацняў кожны гук і рэзаніраваў, як магутны звон. Пад палубай знясіленыя шумам качагары і механікі непакоіліся, ці вытрымае цяжкае выпрабаванне залаплены корпус. Падчас здавалася, што лісты бляхі разыходзяцца па швах і вада рвецца ўсярэдзіну.

З трума прыходзілі нядобрыя весткі. Пад дзеяннем надзвычай імклівых удараў цэментаваныя латы адскаквалі ад корпуса. Вада пачала зноў прыбываць. Пусцілі ў рух некаторыя насосы. Інжынер Бабрыцкі ў адчаі сам падняўся на капітанскі мосцік.

— Прыцішыць ход! Пааббіваеце нам увесь цэмент! — крычаў ён з парога, але капітан Філатаў не зварочваў увагі на яго крык.



Калі пасля чатырнаццаці гадзін стуку і сатрасанняў «Малыгін» нарэшце вырваўся на чыстую ваду, па ім ударыла моцная бакавая хваля. Першы подых ветру з адкрытага акіяна прынёс на палубу ільдзістыя пырскі. Вялікая хваля перакацілася цераз «Руслана», заліла палубу, забурлілася і сплыла, пакідаючы пасля сябе белую тонкую скарынку лёду. Услед за ёй беглі ўжо наступныя.

— Узяць «Руслана» на буксір! — раздалася каманда.

Голас, узмоцнены трубой, перамог свіст узмацнелага ветру. «Малыгін» сцішыў ход. На карме стаяла група людзей з боцманам на чале. Калі буксір падплыў да парахода, Вайцешчук з усіх сіл замахнуўся скруткам каната. Прамахнуўся. Зноў кінуў. Канат схапілі толькі за чацвёртым разам. Калі, нарэшце, уцягнулі яго на палубу, адразу ён пакрыўся шклістай обмараззю. На знак: «Буксір паданы» капітан Філатаў скамандаваў зноў: «Малы наперад!», але хуткасць цяпер упала да шасці вузлоў. Параход стала моцна калыхаць. Пырскі хваль, якія залівалі палубу, ператвараліся зараз-жа ў лёдавыя сцежкі. Канат буксіра, труцячыся аб сталёвыя ўключыны, жаласліва скрыпеў. Малы «Руслан» танцаваў на хвалі. Калі яна выносіла яго ўгору, здавалася, што ён, як птушка, расправіць крыллі і паляціць. Калі-ж падаў уніз, можна было падумаць, што ўжо ніколі не вынырне з марской глыбіні.

У адну хвіліну скасцянелы ад холаду Федзя ўбачыў сярод згрувжаных хваль, што нешта агромністае то ўзнімаецца на вадзе, то апускаецца. Вялізная глыба плыла проста на судно. Раздаўся магутны трэск. Перапалоханы хлопец міжвольна крыкнуў і ўхапіўся за плячо Барысава, які стаяў побач.

— Так, гэта нядобра. Абтаўкуць нам дарэшты цэмент. Глядзі, што там робіцца!

Успененая цёмнашэрая хваля з белымі хрыбтамі нясла невялікія на выгляд глыбы лёду. Колькасць іх хутка расла. Шторм гнаў іх цэлымі грудамі. Старэйшыя матросы глядзелі з непакоем на ўспененае мора.

— Такая глыба важыць некалькі дзесяткаў, а часамі і некалькі соцень тон...

— Калі ўдарыць, можа пагнуць або прабіць нам бок судна.

— Нават «Красін» і «Ермак» пазбягаюць іх, — пацвердзіў занепакоены боцман.

Абцяжараны буксірам, «Малыгін» страціў мажлівасць манеўраваць. Цяпер ён ужо не мог хутка выходзіць з небяспечнага становішча. Глыбы лёду штохвіліны спаўзалі з хрыбтоў хваль і, як таран, білі ў бляху... За кожным разам на дне судна з'яўляліся ўсё новыя струменні вады. Старыя латы адскаквалі адна за адной, не лепш трымаліся і новыя, заложаныя з такімі цяжкасцямі амаль ва ўсіх пунктах корпуса. Дзяжурныя ў трумах з адчаем глядзелі на гэтыя знішчэнні. Да капітана даходзілі трывожныя паведамленні.

«Зменшыць хуткасць, хваля нас залівае. Не спраўляемся ссякаць лёд, які ўсё нарастае», — сігналізавалі з буксіра.

Капітан Філатаў неахвотна загадаў зменшыць хуткасць да трох вузлоў.

— Прыбывае ўжо да васьмісот тон вады за гадзіну, — паведамляў па тэлефону неспакойны голас Бабрыцкага.

Начальнік, які стаяў тут-жа каля Філатава, кінуўся ў дзверы.

— Асцярожна, хваля вас схопіць! — крыкнуў услед яму капітан, але Крылоў ужо быў далёка. Прыцicкаючыся да прыбудоўкі, ён утуліў галаву ў плечы і спрытна праслізнуў да ўваходу ў машыннае аддзяленне.

На падлозе пераліваліся цёмныя струменні. Вада даставала да шчыкалатак. У кацельні становішча было яшчэ горшае. Узровень вады быў вышэйшы і ўвесь час павялічваўся. Вада падыходзіла да топкі.

Дым матораў удушлівай завесай запоўніў усё нутро парахода, а праз аглушальнае тарахценне мотанасосаў раз-по-разу даносіўся лёскат ільдзін, якія білі ў бакі парахода.

— Адкрыць дзверы наверх! Пусціць у ход усе вентылятары! Паставіць ветракі на вецер! — загадаў выбягаючы Крылоў. — Паведаміць Бабрыцкаму, што вяртаюся на капітанскі мосцік. Трымацца, хлопцы! Чакаю далейшых распараджэнняў.

«Зменшыць ход яшчэ, не даем сабе рады!» — перадаваў сігнальшчык з «Руслана».

Зазвінеў званок машыннага тэлеграфа. Капітан Філатаў зменшыў ход. Ён вымушаны быў зрабіць гэта нават у такія хвіліны, калі трэба было любымі сродкамі павялічваць хуткасць.

На капітанскім мосціку з'явіўся інжынер Бабрыцкі з шэрым, як попел, тварам.

— Параход зноў пахіліўся на левы борт. Нахіл павялічваецца, — паведаміў ён.

Капітан Філатаў маўчаў.

— Пусціць у ход усе насосы! — крыкнуў Крылоў. На яго скронях пульсіравалі жылы.

Хвіліну пазней гук усіх мотанасосаў паддаў людзям надзеі, але іх радасць была заўчаснай.

— Насосы не ловяць вады, параход надта моцна калышацца. Вада пераліваецца з боку на бок, — паведаміў зноў інжынер.

Параход быў ахутаны дымам, выпарэннямі. Учадзелы Байкоў не меў ужо сіл змагацца з вадой. Ён сядзеў на падлозе трума, не адчуваючы, што кожную хвіліну пераліваліся праз яго халодныя струменні.

Федзя ледзь трымаўся на нагах, але паспеў своечасова выцягнуць на палубу Саксонава, які, знясілены марской хваробай, хутчэй, чым

іншыя, атруціўся выдзяленнямі рухавікоў. Як толькі свежае паветра і ледзяністыя пырскі вярнулі яго да прытомнасці, ён зноў зышоў пад палубу і пачаў дзейнічаць у машынным аддзяленні каля электрычных генератараў. Барысаў не пакідаў сваіх людзей. Усюды быў чуцён яго ахрыплы голас, хоць трымаўся ён рэштакаю сіл. Крылоў, душачыся кашлем, бегаў па ўсяму параходу, паддаваў экіпажу духу і стараўся ўтрымліваць лад і парадак.

Але не так лёгка было гэта рабіць. У трумах вада даходзіла ўжо да кален.

— Тонем? — спытаў спакойна адзін з качагараў. — От, раз казе паміраць!

Выдзяленні матораў і бура зрабілі сваё. Нават Хандзюк, моцны, здаровы Хандзюк, які нямала ў жыцці перанёс, быў бледны, як палатно. Становішча было нярадасным. За дваццаць чатыры гадзіны з часу выплыцця ў адкрыты акіян частка мотанасосаў сапсавалася. Механікі валіліся з ног, але ніхто не зыходзіў з паста. Атручаныя газамі, знясіленыя марской хваробай, адны ажыўлялі другіх, а хто толькі мог, замяняў таварыша.

— Вада ўсё прыбывае. Большасць мотанасосаў не дзейнічае. У кожную хвіліну можам быць вымушаны пагасіць усе катлы.

Гэта роспачнае паведамленне інжынера застала Крылова пры адзіным мотанасосе, які працаваў дваццаць пяць гадзін беспярапынна, без хвіліны затрымкі. Пры рухавіку стаяў Одзяк з тварам шэрым, як попел. Відаць было, што толькі сілай волі трымаецца ён на пасту.

— Дзякую вам, — сказаў міжвольна начальнік.

Пачырванелыя вочы механіка глянулі на яго як-бы з дакорам. За што начальнік дзякаваў яму? Хацеў нешта адказаць, але на словы нехапіла яму сіл.

— Мядзведжы востраў паведамляе, што бура прасоўваецца на ўсход, — гаварыў з націскам Філатаў, які вяртаўся на капітанскі мосцік, — бура ідзе разам з намі, узмацняецца.

Погляды капітана і начальніка перакрыжаваліся. З вуснаў іх выпала адно слова:

— Паварочваць!

— Права на борт! Курс норд, норд-вест! — падаў каманду капітан, выразна скандуючы кожнае слова.

— Права на борт! Курс норд, норд-вест! — паўтарыў, як рэха, Марозаў, хутка перакідваючы спіцы кола.

...Параход нагнуўся пад бакавымі ўдарамі ветру і, здавалася, што ён, спаўзаючы са шчыту хвалі ў вадзяную пропасць, перавернецца. Але праз хвіліну «Малыгін» выпраміўся. Усе з палёгкай уздыхнулі.

Бура і ў далейшым не сціхала.

Вада хлынула цяпер праз левы, пахілены борт, змываючы ўсё, што не было прымацавана да палубы. Пад яе напорам трэснулі ўмацаванні двух выратавальных лодак. Вада панесла іх угару, прыціснула да сталёвай сцяны прыбудоўкі і праз хвіліну змяла паламаныя ў шчэпкі дошкі.

Набеглі хвалі і хлынулі праз адкрытыя люкі на дно трума. Людзі з вялікай цяжкасцю выкарабкваліся з неспадзяванай купелі. Доктар Лінкевіч бездапаможна размахваў рукамі, стараючыся ўтрымаць роўнавагу.

— Мае акуляры! — крычаў ён, выплёўваючы горка-салёную ваду. Тыя, што бліжэй стаялі, кінуліся яму на дапамогу. Праз хвіліну Хандзюк вылавіў непашкоджаныя акуляры з мутнай хвалі, якая пералівалася з бульканнем ад сценкі да сценкі.

— Добра быць вадалазам, цьфу! — скрывіўся ён, выплёўваючы ваду.

Лінкевіч надзеў акуляры, глянуў на яго і рассмяяўся.

— Але-ж ты выглядаеш!..

Мокры твар Хандзюка зусім не быў забаўным, але ўсе засмяяліся. Смяяліся-б цяпер абы з чаго — шчаслівыя, што небяспека была ўжо за імі. Жартавалі, падхопліваючы шлангі насосаў, прытрымлівалі іх, каб яны маглі лепш чэрпаць ваду.

Капітан Філатаў стараўся так паставіць параход, каб як найменш вады ўлівалася ўсярэдзіну праз адкрытыя люкі.

У хвіліну, калі на капітанскім мосціку здавалася, што, паўзучы ціхім ходам пад вецер, можна будзе спакойна даплыць за некалькі гадзін да Барэнтсбурга, у акустычным тэлефоне захрыпеў зменены голас інжынера Бабрыцкага:

— Вада падыходзіць да топкі. Гасім катлы! Любымі сродкамі пусціце ў ход усе насосы! Вінт зменшыў абароты. Электрычныя лампачкі амаль патухлі. Яшчэ праз хвіліну электрычныя валаскі свяціліся чырванаватым бляскам, і пад палубай запанавала цемната. Марозаў безнадзейна круціў рулявым калясом, але параход не рухаўся наперад і страціў рулявое ўпраўленне.

— Бекусаў! — крыкнулі адначасова Крылоў і Філатаў.

Абапёршыся моцна ў абледзянелыя поручні, начальнік дыктаваў сігнальшчыку:

«Затрымліваем машыны. Вада пад топкамі. Цяпер вы павінны ўзяць нас на буксір. Пастаўце нашу насавую частку пад вецер. Выканаць зараз-жа».

З коміна «Руслана» выбухнулі клубы дыму. Боцман і яго людзі пачалі хутка выцягваць на палубу тоўстую манілу. Буксір рвануў уперад. Дзесяткі пар вачэй з напружаннем разглядалі малую пасудзіну, якая раз-по-разу знікала ў глыбокіх барознах мора.

Капітан Клюеў разумеў, якая небяспека пагражала «Малыгіну», і стараўся як найхутчэй абмінуць яго з падводнага боку. Рашэнне было правільнае, але вельмі рызыкоўнае. Хваля зносіла «Руслана» на нерухомага «Малыгіна». У хвіліну, калі буксір быў на вышыні носа, вялікая хваля кінула яго проста на ледакол. Тыя, што стаялі на насавой частцы, перапалохаўшыся, кінуліся ўцякаць. Занесены высока на хвалі «Руслан» павіс тут-жа над палубай. Заціснутыя на поручнях рукі капітана Філатава збялелі, сэрца яго замёрла: «канец!» Міжвольна закрыў вочы, чакаючы моцнага штуршка і грукату сутыкнення. Калі іх адкрыў, буксір калыхаўся на хвалі на адлегласці некалькіх метраў ад «Малыгіна».

Боцман быў адным з нямногіх людзей на палубе, якія не страцілі роўнавагі. У хвіліну, калі абодва параходы дакрануліся адзін другога бартамі, ён перакінуў на буксір канат. Перакіданне каната ў час буры прадоўжылася-б, напэўна, некалькі гадзін, а такое прамаруджанне магло згубіць іх. Калі буксірны канат нацягнуўся зноў і нос «Малыгіна» стаў пад вецер, падалі загад:

— Пусціць у ход усе мотанасосы!

Механікі пацягнуліся да сваіх машын. Прыслуга трума кінулася чысціць і ўмацоўваць шлангі. Адзін за другім запрацавалі з шумам і лязгам матары, выкідваючы воблакі едкага дыму.

Мора не злітавалася ў гэты раз над Федзям — ён хварэў так, як усе, але, трохі апрытомнеўшы, ухапіўся за адну думку і замучыў ёю Саксонава, які ледзь трымаўся на нагах.

— Скажыце, як злучыцца кабелем з «Русланам»?

— Пакінь мяне ў спакоі! Ты-ж ведаеш, што гэта немажліва! — адмахваўся старэйшы электрык, знясілены марской хваробай.

— Цяпер нашы электранасосы спатрэбіліся-б, як ніколі раней, — упарта вяртаўся юнак да сваёй думкі.

— Паглядзі толькі на хвалі! Паплывеш лодкай? Не. Дай мне, нарэшце, спакой! Бачыш, што ледзь жыву, — разгневаўся Саксонаў.

Федзя глянуў з дакорам на свайго шэфа і выбег пад палубу. Ужо праз некалькі крокаў захліпнуўся дымам і слёзы пацяклі ў яго з вачэй. Скрозь шэраблакітныя клубы ён не бачыў нічога перад сабой. Штохвіліны натыкаўся на каго-небудзь, хто, як і ён, ішоў вобмацкам.

— Дзе інжынер? — пытаў ён усіх па чарзе, але ніхто не мог даць яму пэўны адказ. Адны гаварылі, што ён на палубе, другія, што, напэўна, у труме.

У задымленым ад перагарэлых выпарэнняў праходзе ў машынным аддзяленні Федзя зноў наткнуўся на некага, схапіў за рукаў і ахрыплым ад кашлю голасам паўтарыў:

— Не бачылі інжынера?

— Чаго табе трэба ад мяне? — ірвануўся нецярплівa Бабрыцкі. — Няма мне часу.

— Слухайце! — Федзя моцна трымаў рукаў курткі. — Ці нельга пусціць у ход нашы электранасосы?

Бабрыцкі з непакоем прыблізіў твар да твару хлопца і мімаволі прылажыў руку да яго ілба.

— Звар'яцеў? Сам добра ведаеш, што для гэтага трэба, каб працаваў кацёл.

— А ці няма спосабу перацягнуць кабель з буксіра?

— Звар'яцеў? — паўтарыў нецярпліва інжынер. — Цяпер, у час такой буры? Што ты трызніш?

Але Федзя не ўступаў. Шырока адкрытымі вачамі ўпарта ўглядаўся ў змучаны твар інжынера, як-бы хочучы прымусіць яго спыніцца. Бабрыцкі адразу змоўк. Відаць было, што раздумвае. Раптам яго рука моцна сціснула плячо хлапца.

— Ёсць адно выйсце... Не падумаў аб гэтым.

У Федзі заіскрыліся вочы.

— Якое?

— Бекусаў, сігналізуйце: «Капітан Клюеў. Ці маеце катапульту? Пытае Бабрыцкі».

— Так, гатова да ўжытку, — адказалі семафорам.

— Выстраліце зараз канат на нашу палубу. Перацягнем да вас кабель. Электрычная энергія паправіць зараз-жа наша становішча.

Каляровыя флажкі мігцелі ў руках Бекусава з маланкавай хуткасцю.

Бабрыцкі звярнуўся да боцмана, які стаяў пад навесам мосціка:

— Калі выстраляць катапультай канат, прыміце яго, добра? Перацягнем электрычны кабель.

Чорныя вочы боцмана глянулі ўважліва на інжынера, які хутка аддаляўся. Твар яго праясніўся.

— Нядрэнная думка! — сказаў ён з пашанай.

Федзя ўжо адкрываў вусны, каб растлумачыць, што гэта часткова і яго заслуга, але падумаў, што гэта зусім не важна, што важна толькі адно: як найхутчэй пусціць электранасосы.

Ледзь толькі боцман паспеў выдаць некалькі загадаў, як ужо раздаліся кароткія сігналы «Руслана». Праз хвіліну блiснула на палубе, і ў паветры развіўся чорны вуж каната.

— Лавіць! Лавіць! — раздаліся з усіх бакоў вокрыкі.

З цяжкасцю ўтрымліваючы роўнавагу на палубе, якая ўвесь час калыхалася, людзі з



паднятымі ўгору галовамі чакалі, дзе ўпадзе канат. Трэба было яго схапіць любой цаной, каб не саслізнуўся ў ваду. І калі ён з трэскам упаў на палубу, ускочыла некалькі чалавек, якія стаялі бліжэй і расцягнуліся на аслізлых дошках. Дзімітрыеў сарваўся першы, трымаючы ў сціснутай далоні тонкі моцны канат. Электрыкі кінуліся да яго і вырвалі канат з яго рук.

— Трымаем! — крычаў Федзя Бекусаву. — Спытайце, ці можна цягнуць.

Некалькі доўгіх свісткоў з «Руслана» паведамілі, што ўсё гатова.

Нахіляючыся з капітанскага мосціка, сігнальшчык даў знак: «Цягнуць павольна!»

Калі канец кабеля паказаўся пад бартом, Федзя падскочыў да яго першым. Саксонаў, які адразу забыў аб марской хваробе, пільнаваў, каб прывязалі кабель у некалькіх месцах да поручняў. Для электрыкаў скончылася бура, развеялася дзесь пагроза патаплення. Не адчувалі ні марозных подыхаў ветру, ні лядовай хвалі, якая залівала іх. Бляск электрычных лямпачак, якія загараліся, быў для іх залогам перамогі. Ніколі яшчэ шум рухавіка электранасоса не грымеў так прыгожа, як цяпер, у вушах ашчасліўленага Федзі. Электрычнае святло дапамагло таксама прыслузе мотанасосаў.

Усё больш вады хлёстала за борт, усё менш было яе пад палубай. Час не чакаў. На «Руслане» качагары не маглі ўжо ўтрымаць націску пары.

«Калі закончыце?» — раз-по-разу пытаў семафорам капітан Клюеў.

— Сігналь. Вада ў кацельні ўбывае! Распальваем пад першым катлом. Неўзабаве дадзім пары. Катлы не астылі. Патрымайце нас на буксіры яшчэ поўгадзіны.

Між тым, начальнік памыляўся — прайшлі яшчэ доўгія дзве гадзіны, покуль «Малыгін» змог паплыць уласнымі сіламі.

Алавянае неба цяжка навісла над параходамі, якія паўзлі павольна. Нарэшце да манатоннага шуму ветру і мора далучыўся знаёмы лоскат крыгі, што білася па баках парахода.

Тым часам лоскат гэты надаў усім бадзёрасці — гэта быў знак, што прыбліжаліся да ўваходу ў Эйсфіорд.

Калі імгла, што вісела над морам, пачала радзець, эпронаўцы з палёгкай заўважылі абрысы далёкіх заснежаных шчытоў Шпіцбергена і з радасцю прывіталі першыя ўдары кіля аб лёд. Небяспека мінула. Дакучлівае калыханне заціхала. Насосы ў ільдах працавалі нармальна.

«Малыгін» цяпер плыў лёгка праз ільды Эйсфіорду. Бура, якая ледзь не затапіла параход, пакрышыла цяжкія лёдавыя палі, што закрывалі затоку. Пахілены ледз-ледзь на левы борт, ледакол вяртаўся ў прыстань, як дадому. Знясілены да апошняга, экіпаж адразу ўпаў у каменны сон. Людзі засыналі там, дзе застаў іх сігнал: «Начны спакой!»

На пастах наглядала дзяжурная прыслуга насосаў і катлоў.

Але не толькі дзяжурныя не спалі. Цяпер пасля прыбыцця на прыстань, Крылоў і Барысаў цяжкім крокам пачалі ўзбірацца на гару да радыёстанцыі рудніка, каб паведаміць аб няўдачным рэйсе. Ішлі абодва моўчкі з апушчанымі галовамі. Што рабіць далей?

З будынку выбег ім насустрач узбуджаны радыётэлеграфіст.

— Таварыш начальнік, не мог наладзіць з вамі сувязі. Перадаў звестку, што вяртаецеся ў Барэнтсбург. Праз некалькі гадзін атрымаў радыёграму. Праз некалькі дзён будзе тут «Красін»... Толькі ўчора вярнуўся ў Мурманск з рэйса на Новую Зямлю. Сёння раніцою выплыў ужо да нас... — гаварыў адным духам, падаючы ім тэлеграму.

Дзве змучаныя галавы схіліліся над лістком, а праз хвіліну пасвятлелыя твары падняліся ўгору. Два чалавекі бадзёра закрочылі ў порт.

— Я адчуваў, што не пакінуць нас адных! — паўтарыў узрадаваны Барысаў. Начальнік маўчаў, але яго змучаны твар свяціўся радасцю. Ён таксама ведаў, што партыя і ўрад прыдуць ім на дапамогу.

Пераклад з польскай мовы.

Р. ПІАТУХОЎСКАЯ

# Пасля ўрокаў



У ізостудыі. Кіраўнік В. І. Вярсоцкі правярае работу студыйцаў.
Фото Р. Каралёва.

Калі ў 26-й чыгуначнай школе пачаўся запіс у гурткі, асабліва хваляваліся рабяты ў дзевятых класах. Справа ў тым, што ў мінулым годзе запаветнай марай многіх васьмікласнікаў было паступленне ў матацыклетны гурток пры Дзіцячай тэхнічнай станцыі. Але тады іх не прымалі: малыя яшчэ, шаснаццаці гадоў не споўнілася!.. А паступіць вельмі-ж хацелася. У школе многа расказвалі аб прывабных, захапляючых паездках гурткоўцаў па аколіцах горада, аб тым, што дваццаць школьнікаў атрымалі правы ваджэння матацыкла.

«Правы ваджэння» — якія гэта, здавалася-б сухія, малазначныя словы. Аднак для неспакойнага юнацкага сэрца яны азначаюць вельмі многае. Па-першае, ты маеш поўнае права самастойна сесці на машыну і стрымгалоў паімчацца па дарозе куды табе захочацца, перажываючы хвалюючае, цудоўнае адчуванне хуткай язды. Па-другое, ты атрымліваеш магчымасць у поўнай меры даказаць сваю смеласць, уменне, спрытнасць. Па-трэцяе... ды ці мала будзе ў цябе яшчэ якіх пераваг перад астатнімі людзьмі, калі ты атрымаеш запаветную кніжачку!.. Зразумела, што летась у восьмым класе марылі аб ёй вельмі многія. І вось цяпер гэтая мара можа ажыццявіцца. Праўда, дырэктар ДТС Валянцін Іванавіч Ярохін катэгарычна заявіў:

— Глядзіце, каб дысцыпліна была выдатная. Матацыкл не любіць расхлябанасці, ён патрабуе сабранасці, упартасці, цярпення, волі. Хто не выхавае ў сабе гэтых якасцей, нізавошта не атрымае дазволу нават сесці на машыну.

На першыя-ж заняткі з'явіліся ўсе без спазнення. У гэты дзень вывучалі матор. Але Валянцін Іванавіч не адразу пачаў тлумачэнне. Трэба было яшчэ пагаварыць шмат аб чым, што, здавалася-б, ніяк не датычыцца матацыкла, але немалое значэнне мае ва ўсякай справе.

— Я шмат гадоў працую на дзіцячай тэхнічнай станцыі, — пачаў ён. — І вось не раз бывалі ў нас такія недарэчныя выпадкі, калі комсамолец-старшакласнік мог выдатна разабраць матор, змантыраваць радыёпрыёмнік, а скрынку для таго-ж прыёмніка змайстраваць не ўмеў, і адрамантаваць пробку выклікаў манцёра. Такіх «майстроў» я звычайна пасылаў на вывучку да малышоў, у гурток «Умелыя рукі». Няёмка ім было: амаль дарослыя, а нічога не ўмеюць... Ну, а сярод вас як? Няма такіх гора-ўмельцаў? — спытаў Валянцін Іванавіч.

Некаторыя з рабят збянтэжана пачалі пераглядвацца. Не хацелася пры ўсіх прызнавацца, што рэдка даводзілася ім трымаць у руках рубанак, напільнік, стамеску, зубіла.

Валянцін Іванавіч, здавалася, не заўважыў збянтэжанасці будучых матацыклістаў і, усміхнуўшыся, скончыў:

— Ну што-ж, калі маўчыце, дык так і будзем лічыць, што рукі ў вас ва ўсіх умелыя, і да вывучэння тэхнікі вы прыступаеце ва ўсеўзбраенні. Гэта вельмі добра. Значыць зоймемся вывучэннем матора. На наступных занятках вывучым астатнія часткі матацыкла.

Пакуль дзевяцікласнікі Валодзя Рымашэўскі, Ігар Шабуня, Валодзя Усціменка і другія ўважліва разглядалі схему, дзесяцікласнік Вячэслаў Грушын правяраў сябе на зборцы матацыкла. Ён ужо другі год займаецца ў гуртку, і ўсё, аб чым расказваў сёння інструктар, яму даўно знаёма. Ён можа без запінкі не толькі назваць любую частку мата-

У чарговую паездку сабраліся аматары матацыклетнага спорту. Дырэктар дзіцячай тэхнічнай станцыі В. І. Ярохін правярае план маршрута.



цыкла, але, калі трэба, беспамылкова вызначыць, дзе адбылася паломка. Вось і зараз яму даручана адказная работа: праверыць спраўнасць матора, змазаць усе часткі, падрыхтаваць машыну да паездкі. Усё гэта Вячэслаў робіць з задавальненнем, з захапленнем. Неўзабаве ён будзе трымаць экзамен на атрыманне правоў ваджэння. Тады можна будзе заняцца і матацыклетным спортам.

Працуючы, Вячэслаў аддаўся марам, і тут прыгадаў ён нядаўнюю размову з Мікалаем Маслаўцом. Яны, абодва заўзятыя канькабежцы, гаварылі пра новы зімовы сезон. У мінулым годзе школа заваявала гарадское першынство па каньках. Цяпер чаго-б гэта ні каштавала трэба замацаваць поспех. А для гэтага неабходна неадкладна распачаць трэніроўкі.

Калі справа датычылася канькабежнага спорту, Вячэслаў заўсёды ўважліва, з павагай прыслухоўваўся да думкі Мікалая. Мікалай не толькі вопытны спартсмен, але яшчэ і трэнер. У канькабежнай секцыі спартыўнага таварыства «Будаўнік» ён трэніруе групу юнакоў і дзяўчат горада, у тым ліку і сваіх таварышаў па школе — Аляксея Шапіна, Святлану Аляксееву і яго, Вячэслава.

«Нельга прапускаць ніводных заняткаў, бо прыдзецца-ж выступаць за чэсць школы, — думае Вячэслаў. — А для таго, каб усюды паспець, трэба строга размяркаваць свой час».

З гэтым нельга не пагадзіцца. Правільна размяркаваць свой час — гэта вельмі важна, асабліва для дзесяцікласніка. Сёлета трэба будзе трымаць экзамены на атэстат сталасці. Таму галоўная ўвага — вучобе. Толькі пасля ўрокаў, у вольныя гадзіны, можна заняцца і спортам і іншымі цікавымі і карыснымі справамі. А іх так многа, гэтых цікавых спраў!

У той час, як Вячэслаў з Мікалаем накіроўваюцца ў спартыўную залу на трэніроўкі або на ДТС, Эма Цітавец, Толя Пагарэлаў, Жэня Сотнікаў, Валя Байко ідуць у ізостудыю. Гэты пакой не падобны на іншыя пакоі школы. Тут цішыня, спакой і нават некаторая ўрачыстасць. Пахне масляным фарбамі, гіпсам, на сценах развешаны карціны вядомых рускіх мастакоў. І карціны гэтыя вывешаны тут не для ўпрыгожання. Гэта — вучэбныя дапаможнікі студыйцаў. Вывучаючы работы славутых майстроў, рабяты авалодваюць кампазіцыяй, малюнкам і ўсім іншым, што неабходна для мастака.

На сталах студыі размешчаны гіпсавыя злепкі. З іх юныя мастакі робяць накіды алоўкам. Не вельмі гэта проста, як здаецца на першы погляд, далёка не адразу прыходзіць поспех. Часамі не ўдаецца тушоўка, іншы раз ніяк не зразумееш, у чым твая памылка, чаму няправільнымі атрымліваюцца прапорцыі. Але, як кажуць, праца і цярпенне — справы здзяйсненне. Эма Цітавец, Жэня Сотнікаў, Валя Байко, калі ім што-небудзь не ўдаецца, зноў і зноў прыходзяць ў студыю і настойліва перарабляюць свае працы. Хочацца, каб у дзень заняткаў кіраўнік ізогуртка Віктар Іванавіч Вярсоцкі пахваліў замалёўку натурнай пастаноўкі або эцюд, выкананы акварэллю. І нярэдка бывае так, што работы вучняў патрабуюць толькі нязначных паправак. Калі выпадае такі шчаслівы дзень і Віктар Іванавіч не прымушае зноў пачынаць малюнак, асабліва бываюць рады Валя Байко і Жэня Сотнікаў. Яны даўно выношваюць мару аб мастацкім вучылішчы. Кожны новы поспех, кожнае ўхваленне даюць яшчэ адну надзею на паступленне.

Важаты атрада Эрнст Цітавец праводзіць з піонерамі шахматны турнір.



А ў драматычным гуртку ніхто, здаецца, не збіраецца з школьнай сцэны перайсці на вялікую, сапраўдную сцэну тэатра. Тым не менш, і там працуюць з вялікім натхненнем. Там усё робіцца з захапленнем, усё выклікае спрэчкі сярод гарачых школьных артыстаў — і выбар п'есы, і размеркаванне роляў, і прыгатаванне дэкарацый, і шыццё касцюмаў. Уласна кажучы, шыцця касцюмаў, вядома, не бывае. Проста рознымі шляхамі прыстасоўваюцца старыя пінжакі і сукенкі, што знойдуць рабяты дома. Але гэта не расхалоджвае юных артыстаў.

Між іншым, для выбранай на гэты раз п'есы не патрэбны ні складаныя касцюмы, ні дэкарацыі. Вырашана ставіць п'есу аб баявым мінулым комсамола — «Юнацтва бацькоў». Праведзены ўжо ўсе падрыхтоўчыя этапы работы: чытанне п'есы, вывучэнне абстаноўкі, у якой дзейнічалі героі, размеркаванне роляў. Пачалося самае цікавае і працаёмкае: рэпетыцыі, пошукі патрэбных інтанацый, барацьба са скаванасцю жэстаў і руху.

Барыс Баброўскіх, якога дагэтуль ведалі ў школе як заўзятага футбаліста, у гэтым годзе захапіўся драматычным мастацтвам. І трэба сказаць, што атрымліваецца ў яго нядрэнна. У п'есе яму даручана роля Антона — цікавая, адказная роля. Барысу хочацца сыграць яе так, каб гледачы паверылі ва ўсё, што адбываецца на сцэне, каб баявое, гераічнае юнацтва бацькоў захапіла і ўсхвалявала іх.

Рабяты з драматычнага гуртка трымаюць цесную сувязь з літаратурным гуртком. Сапраўды, ім, якія іграюць на школьнай сцэне, трэба вельмі добра ведаць літаратуру. І не толькі тыя творы, што вывучаюцца на ўроку, але і іншыя, новыя.

У першым поўгоддзі гурткоўцы вывучалі жыццё і творчасць Нікалая Астроўскага. Сардэчнай і хвалюючай атрымалася размова аб любімым пісьменніку. Святлана Казей Наташа Анісімава гаварылі аб мужнасці, гераізме, вытрымцы, стойкасці, аб велічы духу Н. Астроўскага. І тады гутарка ў гуртку міжвольна вылілася ў гарачую спрэчку аб вобліку совецкага маладога чалавека, аб тым, які павінен быць комсамолец.

Уражанні аб занятках гуртка надоўга засталіся ў памяці юнакоў і дзяўчат, напомнілі ім аб іх штодзённых справах.

У прыватнасці, калі зайшла гаворка аб грамадскай рабоце, аб комсамольскіх даручэннях, прысутныя ўспомнілі, як самааддана выконваў Нікалай Астроўскі любое даручэнне комсамола. Для яго гэта быў загад Радзімы, які патрэбна выканаць абавязкова.

Няхай сабе справы, якія камітэт даручае зараз комсамольцам, маленькія, лёгкія, — усёроўна выконваць іх трэба добрасумленна і дакладна. Гэтаму вучыць прыклад любімага пісьменніка. І комсамольцы імкнуцца працаваць іменна так. Яны працуюць важатымі атрадаў, кіруюць спартыўнымі секцыямі, праводзяць гутаркі, рыхтуюць конкурс на лепшую насценную газету. І ўсё гэта робіцца з запалам, з выдумкай, з гатоўнасцю перадаць другім усё, чаму навучыліся, што ўмеюць самі.

Гэтак-жа, як Мікалай Маславец, што трэніруе сваіх сябраў-канькабежцаў, робяць і іншыя. Дзесяцікласнік Генадзі Сакольчык, чэмпіён Беларусі па бегу на 400 метраў сярод юнакоў, дбае не толькі аб палепшанні свайго рэкорда. Ён ахвотна, з радасцю перадае сваё ўменне малодшым таварышам, кіруе лёгкаатлетычнай секцыяй у школе.

А Эрнст Цітавец захапляецца фізікай. У фізічным гуртку ён ужо зрабіў вельмі цікавы даклад аб рэактыўнай тэхніцы, паказаўшы, што ён выдатна разбіраецца ў любімым прадмеце. І гэтае выдатнае веданне фізікі дапамагае яму захапляюча арганізаваць работу ў піонерскім атрадзе сёмага класа, куды Эрнст прызначаны важатым. Піонеры бачаць, як многа ведае іх важаты, як цікава ён умее расказваць, як зразумела і проста можа адказаць на любое пытанне.

Так праводзяць свой час пасля ўрокаў комсамольцы 26-й чыгуначнай школы. Разнастайныя іх заняткі, шматгранныя ў іх інтарэсы. У гуртках яны атрымліваюць новыя веды, набываюць каштоўныя працоўныя навыкі, развіваюць свае здольнасці.

Кіраўнік драматычнага гуртка Марыя Міхайлаўна Горбыч знаёміць школьнікаў з п'есай Б. Гарбатава «Юнацтва бацькоў».



# Часопісу „Бярозка" 30 год!




**30 год назад па рашэнню Цэнтральнага Камітэта камсамола Беларусі і Наркомасветы БССР пачаў выдавацца дзіцячы часопіс «Беларускі піонер». Першы яго нумар вышаў у снежні 1924 года. Адказным рэдактарам часопіса быў вядомы беларускі пісьменнік Алесь Якімовіч.**

**З першых дзён свайго існавання часопіс «Беларускі піонер» заваяваў вялікую папулярнасць сярод дзяцей. У апавяданнях, вершах, нарысах і допісах, якія змяшчаліся на яго старонках, часопіс заклікаў беларускіх піянераў і школьнікаў добра вучыцца, прымаць гарачы ўдзел у піонерскай і грамадскай рабоце, актыўна дапамагаць сваім бацькам у пабудове новага, савецкага жыцця. І дзеці чула прыслухоўваліся да голасу свайго часопіса-важака.**

**З 1929 года, калі пачала выдавацца дзіцячая газета «Піонер Беларусі», часопіс выходзіў пад назвай «Іскры Ільіча». К гэтаму часу аўтарытэт яго яшчэ больш узрос, пашырыўся і аўтарскі актыў. Побач з народнымі паэтамі Янкам Купалам і Якубам Коласам, на старонках «Іскры Ільіча» друкуюць свае творы Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Янка Маўр, Алесь Якімовіч, Міхась Лынькоў, Пятро Глебка, Усевалад Краўчанка, Эдзі Агняцвет, Міхась Калачынскі і іншыя. «Іскры Ільіча» сталі любімым часопісам нашых дзяцей.**

**Пасля вайны часопіс выдаецца пад назвай «Бярозка». Новыя літаратурныя сілы ўдзельнічаюць зараз у яго рабоце. На старонках часопіса з'яўляюцца апавяданні і вершы такіх вядомых пісьменнікаў, як Янка Брыль, Іван Шамякін, Тарас Хадкевіч, Аляксандр Міронаў, Кастусь Кірэенка і іншыя. Часопіс па-ранейшаму стараецца быць сябрам і дарадчыкам піонераў і школьнікаў, дапамагаць ім у вучобе, жыцці і працы. Ён выхоўвае ў іх найлепшыя якасці савецкага чалавека: любоў да працы, настойлівасць у дасягненні мэты, адданасць сваёй любімай Радзіме.**

**Пажадаем-жа часопісу «Бярозка» і надалей дапамагаць партыі і камсамолу выхоўваць маладое падрастаючае пакаленне ў камуністычным духу.**

# ЦІ ЁСЦЬ У ЧАЛАВЕКА ДУША?

Пытанне аб тым, ці ёсць у чалавека душа, што яна сабой уяўляе, што такое псіхічнае жыццё чалавека, цікавіць многіх людзей. Часта маладым людзям, у асаблівасці камсамольцам, даводзіцца спрачацца па гэтаму пытанню з рэлігійнымі людзьмі, а таксама з прадстаўнікамі рэлігійнага культу. Да таго, каб даць належны адпор чужой совецкаму чалавеку рэлігійнай ідэалогіі, наша моладзь павінна мець яскравае ўяўленне аб тым, як узнікла паняцце аб душы, як рэлігія тлумачыць сутнасць чалавечай душы, у чым памылковасць і шкоднасць рэлігійнага вучэння аб душы, як сучасная перадавая совецкая матэрыялістычная навука тлумачыць сутнасць псіхічнай дзейнасці чалавека.

Уяўленне аб душы ўзнікла ў чалавека яшчэ ў далёкія старажытныя часы. Першабытнаму чалавеку, які стаяў на вельмі нізкай ступені разумовага развіцця, былі незразумелыя многія з'явы, што адбываліся ў яго жыцці і ў жыцці акаляючай прыроды. Ён наглядаў такія з'явы ў сваім ўласным жыцці, як сон, страта прытомнасці, смерць. Не разумеючы сапраўдных прычын гэтых з'яў, першабытныя людзі тлумачылі іх тым, што ў целе чалавека існуе нейкая асаблівая сіла, якая жыве сваім незалежным ад цела жыццём. Гэтая сіла, названая душой, можа часова пакідаць цела, а потым зноў у яго вяртацца, як гэта бывае ў час сну або пры страце прытомнасці. Сны старажытныя людзі тлумачылі тым, што душа, часова пакінуўшы цела, ходзіць па свету, і ўсё тое, што яна бачыць у гэты час, з'яўляецца чалавеку ў сне. Калі чалавек бачыў у сне каго-небудзь са сваіх знаёмых, то ён лічыў, што яго душа сустрэлася з душой таго, хто яму прысніўся.

Страту прытомнасці першабытны чалавек тлумачыў тым, што душа раптоўна пакінула цела. Калі яна вярталася на сваё месца, то чалавек прыходзіў у прытомнасць. Смерць першабытныя людзі тлумачылі тым, што душа назаўсёды пакідала цела.

Трэба адзначыць, што першыя ўяўленні чалавека аб душы былі наіўна-матэрыялістычнымі: душа ўяўлялася яму ў выглядзе лёгкай пары, якой прасякнута цела.

Сучасная рэлігія сцвярджае, што бог стварыў чалавека і ўдзьмуў у яго бяссмертную душу. Цела з'яўляецца толькі тленнай абалонкай душы. Рэлігія сцвярджае перавагу душы над целам і вучыць, што чалавек павінен жыць для душы. Зямное жыццё, вучыць яна, гэта толькі падрыхтоўка да вечнага жыцця душы пасля смерці чалавека. Пры жыцці чалавек павінен клапаціцца аб тым, каб яго душа трапіла ў рай, а не ў пекла. А для гэтага патрэбна быць пакорлівым, дараваць усякую крыўду і любіць сваіх ворагаў, цярпець і не супраціўляцца злу.

Царква пагражае вечнымі пакутамі душам тых людзей, якія імкнуцца да «зямнога шчасця» — змагаюцца супраць сацыяльнай несправядлівасці, супраць эксплуатацыі, за паляпшэнне ўмоў жыцця людзей. Такіх людзей царква аб'яўляе вялікімі грэшнікамі.

Зусім зразумела, чым інтарэсам служыць рэлігія, выхоўваючы рабскую пакорлівасць, цярплівасць да матэрыяльных нястач, любоў да ворагаў. Ва ўмовах капіталізма яна аказвае велізарную паслугу пануючаму класу, выхоўваючы людзей не здольнымі да барацьбы з эксплуататарамі.

Ва ўмовах совецкай дзяржавы рэлігійнае вучэнне аб душы і яе жыцці на тым свеце таксама прыносіць вялікую шкоду. Совецкай дзяржаве патрэбны бадзёрыя, энергічныя, жыццерадасныя людзі, якія любяць жыццё і могуць змагацца за шчасце на зямлі — за такі грамадскі лад, пры якім кожны чалавек атрымае магчымасць максімальна задаволіць матэрыяльныя і духоўныя патрэбы, г. зн. за комунізм. Чалавек, ідэалам якога з'яўляецца райскае жыццё на нейкім неіснуючым «тым свеце», не здольны быць актыўным барацьбітом за комунізм. Вось чаму нам неабходна змагацца з рэлігійным вучэннем, Рэлігійнаму светапогляду трэба супрацьпаставіць атэістычны светапогляд, рэлігіі — навуку.

Сучасная наша навука адмаўляе існаванне душы. У чалавека існуе не душа, а псіхіка. Заснавальнікі марксісцка-ленінскай навукі ў сваіх працах заўсёды падкрэслівають сувязь псіхікі з мозгам, адмаўляючы існаванне псіхікі (душы) як асобнай, незалежнай ад цела сутнасці. Псіхіка — гэта ўласцівасць мозга, яго здольнасць адлюстроўваць акаляючы нас свет.

Навукай даказана, што псіхіка ўзнікла ў працэсе развіцця матэрыі, на той ступені, калі паявіліся першыя жывыя арганізмы. Яна развівалася ў працэсе эвалюцыі жывёльнага свету ў адзінстве з развіццём нервовай сістэмы. Гэтае развіццё было абумоўлена станоўчым значэннем псіхікі ў барацьбе за існаванне.

Псіхіка чалавека адрозніваецца ад псіхікі жывёл тым, што яна носіць свядомы характар. Свядомасць чалавека праяўляецца ва ўменні папярэдне планаваць свае дзеянні, прадбачыць вынікі гэтых дзеянняў, ва ўменні дзейнічаць мэтазгодна і планамерна. Чалавек свядома змяняе прыроду, прыстасоўваючы яе да сваіх мэт, у той час як жывёлы самі прыстасоўваюцца да прыроды.

Вучэнне заснавальнікаў марксізма-ленінізма аб псіхіцы і свядомасці знайшло сваё навуковае абгрунтаванне ў працах вялікіх рускіх фізіёлагаў Сечанава і Паўлава.

Сечанаў першы пачаў навуковае вывучэнне псіхічных з'яў. Разглядаючы арганізм у адзінстве з асяроддзем, Сечанаў адмаўляў наяўнасць у чалавека нейкай асобнай, незалежнай ад мозга душэўнай дзейнасці. На падставе сваіх даследаванняў работы мозга Сечанаў сцвярджаў, што псіхічная дзейнасць у чалавека ўзнікае па спосабу рэфлекса, г. зн. калі на мозг праз органы пачуццяў дзейнічаюць раздражняльнікі знешняга або ўнутранага асяроддзя.

«Чалавек,—пісаў ён,—ёсць пэўная адзінка ў радзе з'яў, прадстаўляемых нашай планетай, і ўсё яго нават **духоўнае жыццё**, наколькі яно можа быць прадметам навуковага даследавання, ёсць **з'ява зямная».**

Матэрыялістычныя погляды Сечанава на сутнасць псіхічнай дзейнасці выкладзены ім у кнізе «Рэфлексы галаўнога мозга», якая выйшла ў свет у 1863 г.

Выхад гэтай кнігі выклікаў пратэст з боку рэакцыйных колаў грамадства таго часу. На кнігу быў накладзены арышт, а супраць яе аўтара была ўзбуджана судовая справа.

Асабліва ўзлавалася на Сечанава духавенства. Мітрапаліт Пецярбургскі і Ладажскі нават звярнуўся да ўрада з просьбай саслаць Сечанава для смірэння і выпраўлення ў царкоўную турму — Салавецкі манастыр за «дерзостное, душегубное и вредоносное учение». Сечанаў на ўсё жыццё быў залічаны царскім урадам у лік нядобранадзейных.

Думкі Сечанава развіў рускі фізіёлаг Паўлаў. Паўлаўская фізіялогія, пабудаваная на аснове дыялектычнага матэрыялізма, ускрыла фізіялагічныя асновы псіхічных працэсаў і тым самым поўнасцю абвергла ілжывыя рэлігійныя прапаведзі аб душы і яе жыцці на тым свеце. Велізарная заслуга Паўлава заключаецца ў тым, што ён даў матэрыялістычнае тлумачэнне псіхічнай дзейнасці, паказаўшы, што так званы «ўнутраны свет» чалавека зусім не з'яўляецца дзейнасцю незалежнай ад цела душы, а ўяўляе сабой не што іншае, як складаную ўмоўна-рэфлекторную дзейнасць кары галаўнога мозга.

Такім чынам, навукай устаноўлена, што ніякай незалежнай ад цела ў чалавека душы няма. Душэўны свет чалавека, або псіхічная дзейнасць, г. зн. яго думкі, пачуцці, воля, адчуванні, памяць і г. д., ёсць вынік фізіялагічнай дзейнасці мозга.

Псіхічная дзейнасць бывае нармальнай толькі пры ўмове нармальнай дзейнасці мозга. У выпадку хваробы мозга парушаецца і псіхічная дзейнасць. У час сну, калі мазгавая кара знаходзіцца ў стане тармажэння, псіхічная дзейнасць набліжаецца да нуля. Калі-ж чалавек памірае і яго мозг перастае працаваць, то спыняецца і псіхічная дзейнасць. Псіхіка, з'яўляючыся ўласцівасцю жывога мозга, не можа існаваць незалежна ад яго дзейнасці. Значыць, у чалавека няма бяссмерца душы, як няма і так званага «таго свету».

Здаровы, нармальна думаючы, аптымістычна настроены совецкі чалавек не павінен марыць аб райскім жыцці пасля смерці, а павінен прыкласці ўсе намаганні да таго, каб хутчэй пабудаваць комунізм, г. зн. такі грамадскі лад, які забяспечыць кожнаму чалавеку магчымасць шчасліва пражыць сваё адзінае, зямное жыццё.

**А. ЕРЭСЬ,**
кандыдат педагагічных навук.



**Іван ГРАМОВІЧ**

# ВЫПАДАК
# У КАМАНДЗІРОЎЦЫ

Мал. С. Раманава.

Калі мы ўжо нахадзіліся і наглядзеліся, то парашылі зайсці адпачыць куды-небудзь, дзе можна было-б, успамінаючы бачанае, пасядзець і перакусіць. Яна прапанавала вярнуцца ў райвыканком. Там маецца буфет, дзе ёсць нават гарачыя блюды.

Мы прыйшлі, селі за столік, засланы чыстым абрусам. Афіцыянтка ў фартушку, з карункавым белым грабеньчыкам над ілбом, прыняла ад нас заказ. Канчуром карандаша дзяўчына запісала сабе ў блакнот нашу просьбу і яшчэ перапытала, ці ўсё мы заказалі, чаго хацелі.

— Усё, — сказала мая суседка, мая новая знаемая. — Яшчэ чаю мне прынясі, Ніна... Чайчыку!

— І мне таксама, — папрасіў і я чаю, крыху здзіўляючыся на пястоту, з якой суседка вымавіла апошняе слова.

У памяшканні райвыканкомаўскага буфета нікога не было, толькі мы ўдваіх. Наша размова, якую мы вялі ўсю дарогу, стала яшчэ больш блізкай і шчырай.

Прайшло некалькі гадзін, як мы пазнаёміліся, абышлі раённую сельскагаспадарчую выстаўку, і, па меры працягласці нашага агляду экспанатаў на выстаўцы, узаемных размоў аб ураджанні, між намі расла гэтая шчырасць гутаркі.

Яшчэ ў Мінску адзін мой шаноўны знаёмы, даведаўшыся, куды я еду, усхвалёвана загукаў:

— У-га! Там-жа Яўдакея Пятроўна працуе. Ведаеш яе? Не? Пабачыш! Валявы, настойлівы чалавек, арганізатар. Усю моладзь у руках трымае.

І ён пачаў нешта расказваць, як Яўдакея Пятроўна пасля інстытута атрымала высокую пасаду ў Мінску, але пакінула яе, не захацела займаць вялікі пост, а скромна паехала ў гэты далёкі раён, ці, як празвалі яго, «глыбінны». Я не надта прыслухоўваўся да характарыстыкі, да заслуг Яўдакеі Пятроўны, і ў тую мінуту яна ўяўлялася мне жанчынай пажылой, з маршчынамі на абліччы.

Якая-ж нечаканасць спасцігла мяне, калі я, прыехаўшы на месца, спаткаўся з ёю, зайшоў у кабінет Яўдакеі Пятроўны. Я працягнуў ёй камандзіроўку і сам міжволі абрадаваўся. Ці-ж гэта — Яўдакея Пятроўна? Яе трэ' было клікаць Дусяй, або Дуняй. Ёй, Яўдакеі Пятроўне, сакратару райкома камсамола, было не больш дваццаці двух зім і вёснаў ад роду. Бойкія, вясёлыя яе вочы і ўсмешка з ружовасцю на ўсе шчокі прыветліва спаткалі мяне.

— Ага, нарэшце, нарэшце! — сказала Дуня, падыходзячы да мяне ў модных туфельках, у сінім касцюме, у белым шаўковым кафтаніку, што віднеўся беражком вышыўкі на высокіх грудзях пад пінжаком. Вітаючыся, яна моцна паціснула мне руку, як гэта ўмеюць рабіць смелыя дзяўчаты, назвалася Яўдакеяй Пятроўнай і запрасіла сесці.

— Дайшло, значыцца, і да вас... Пара паехаць на перыферыю! Правільна, правільна! Не марнуйцеся там у сталіцы. Кабінеты, пасяджэнні!.. Усё гэта не тое. Сапраўднае жыццё тут. Бяры і пішы!

Я адказаў усё, што меў у апраўданне на гэты дакор: што мы працуем у рэдакцыі і выязджаем у раён тады, калі нас пасылаюць, прычым, намякнуў, чаго мяне сюды прыслалі.

— Бачу, бачу, вы не турбуйцеся! Я вас разумею... — і яна ўсміхнулася такой юнай усмешкай, што я збянтэжыўся за свой афіцыйны тон. Дуня ўмела размаўляць проста, пасяброўску. Ёй надта імпанавала гэта, але вось мінула хвіліна, і адно брыво ў яе ўздрыгнула.

— Вы не згодны са мной! Дарэмна! А я вам дакажу, — строга кінула яна. — У пісьменнікаў, і наогул у работнікаў друку, калі існуе маршрут камандзіровак, дык толькі ў адным кірунку. На поўдзень! Праўду кажу! Памяркуйце самі. Напрыклад, вясна. Пачынаецца сяўба. Куды едуць карэспандэнты за матэрыяламі? На Палессе! У Пінск, Гомель, Брэст. Едуць туды, дзе распачалі сяўбу. Там пасяўная кампанія ў разгары, усё кіпіць, гарыць... А да Полацка няма ніякае ўвагі. Няпраўда? Як паспее жыта і пачнецца ўборка, зноў тое самае. Пра каго пішуць у газетах, адкуль фотаздымкі змяшчаюць пра «першы сноп»? З Гомеля. З Пінска. З Брэста. Пакуль да нашай Полаччыны дойдзе чарга, дык і сезону канец. Няма аб чым пісаць. Восень. Праўда?

Мяне здзівіў довад Яўдакеі Пятроўны. Сапраўды, раней мне не здаралася задумвацца над такім пытаннем. І ўсё-ж, трымаючыся першай думкі, я не пагадзіўся з ёю і жартам дадаў, што яна нібы ўяўляе свой раён дзесьці за палярным кругам.

— Трэба ўяўляць размяшчэнне раёна з дзяржаўнага пункту гледжання, — зазначыла Дуня.

Яе вочы калюча зірнулі на мяне. Яна паважна сядзела за сталом у сваім кабінеце.

Вось тут і з'явілася няяснае стаўленне ў нашых узаемаадносінах: ці то з ёю размаўляць проста на «ты», як дазваляў яе і мой узрост, ці то звяртацца па імя і па бацьку?

Аднак яна не дазволіла мне доўга разважаць. У гутарцы Яўдакея Пятроўна, як кажуць, захоплівала ініцыятыву ў свае рукі. І не толькі ў гутарцы. Увесь дзень мой пайшоў, як па складзенаму ёю плану.

Праз нейкі час мы былі на раённай выстаўцы. Яўдакея Пятроўна сама ўзяла абавязак пазнаёміць мяне з дасягненнямі моладзі, пра якія зацікавіліся ў Мінску ў цэнтральнай газеце.

Дуня хадзіла хутка, але я не адставаў. Уражанні мяне гэтак апанавалі, што я скора забыўся, з кім я блукаю, і толькі побач чуўся яе таропкі, звонкі галасок:

— Сюды, сюды! Вы паглядзіце, падзівіцеся!

Падзівіцца было з чаго! Вы не былі на раённых выстаўках у Полацкай вобласці?

Познія, залатыя фарбы восені на фоне бароў, якія часта сустракаюцца на поўначы. А калі дадаць да гэтых колераў чырвань яркіх лозунгаў, дзе вітаюць, запрашаюць на выстаўку, дык будзе хвалюючы жывапісны малюнак.

Аркай выстаўкі былі дзве высокія падгалістыя бярозы. Відаць, тут стаяў гонкі, стройны бор, як той, што вунь віднеецца на ўзгорку. Вось яны выцягнуліся ў неба калісьці разам з соснамі і елкамі, а цяпер толькі галовамі ківаюць над будынкамі выстаўкі, над светлымі, новымі дамамі гарадка.

— Паэзія! — шапнула мне Яўдакея Пятроўна і раптам уголас дадала. — У нас не ўмеюць апісваць так прыроду, як апісваў яе Тургенеў... Я так люблю пейзаж, а нашы пісьменнікі баяцца паказваць пейзаж. Пейзаж — гэта настрой, каларыт... Праўду я кажу!?

Я кіўнуў галавой, не адрываючы позірку ад шырокай, як возера, копанкі, што адразу адкрылася з уваходу на выстаўку. Там, на хвалях, плавалі цэлай флатыліяй гусі і качкі.

— Ведаеце, я некалі марыла закончыць філфак. О-о, каб не партработа! Я хацела напісаць дысертацыю аб прыродзе ў мастацкім тварэнні. Крытыкі не звяртаюць на гэта ўвагі. А як у нашых класікаў падана прырода?.. Як пераўтварае сёння яе наш, савецкі чалавек?.. Волга-Дон!.. Палессе!..

Я слухаю і стараюся запісаць думку, якая з'явілася ў мяне пры ўваходзе на выстаўку. Мая праваднічка, відаць, лічыць, што я няўважлівы да яе, усё звоніць:

— Гэта неабходна, неабходна! І я яшчэ напішу... артыкул напішу! Мы абавязаны патрабаваць ад вас, пісьменнікаў. Ха-ха-ха! ...Пройдзем спачатку ў «Сацыялістычны змагар». Там толькі моладзь. Камсамольцаў у калгасе сто семдзесят чалавек.

Мноства людзей побач з намі ходзіць, як на кірмашы, разглядае. Для іх — гэта свята. Ёсць што ў раёне паказаць і ёсць што пераняць у вопыце работы.

— Гэта нашы лепшыя даяркі, — кажа Яўдакея Пятроўна. — Камсамолкі Насця Мулярчык і Таня Садаўнічая... Насця, дзе вашы графікі? Графікі пакажы!

Я ледзь паспяваю занатоўваць у запісную кніжку лічбы, прозвішчы, клічкі рэкардыстаў і рэкардсменак. Сэрца радуецца за поспехі моладзі!

— Калгас «Прамень камуны», — звонкай скорагаворкай тлумачыць Дуня. — Камсамольская арганізацыя першай за ўсіх закончыла жніво ў раёне. Сакратар — Барыс Антусевіч... Таварыш Антусевіч, пры вас сацыялістычныя дагаворы? Пакажыце тэкст!

Яўдакея Пятроўна сапраўды аказалася найлепшым тлумачом і экскурсаводам.

— Ёсць у нас усё, — казала яна. — Мы багатыя на ўсё!

І гэты гонар яе быў заслужаны. Чаго толькі не было на выстаўцы! О-ё-ёй!

Ляжалі велізарныя гарбузы, і кожны нібы хацеў пахваліцца: «Вось які я!» Адзін нават раскалоўся, быццам хацеў крыкнуць: «Ага!» Стаялі снапы канапель, ды такіх гонкіх, нібы яны раслі, на лес гледзячы, а цяпер спакойна, паблажліва паглядалі на нас. Галоўкі капусты былі такія, што мы з Дуняй, Яўдакеяй Пятроўнай, напэўна, не паднялі-б удваіх. Сядзела тоўстая бручка, быццам яна хацела сказаць: «Паглядзі на мяне! Што ты скажаш?!»

Пры ўсім гэтым багацці горда паходжвалі гаспадары, тыя, чыімі рукамі ўсё тут вырашчана і дагледжана. Я затрымліваўся ў размове з імі, а Яўдакея Пятроўна, звычайна, клікала мяне далей; яна ўсё імкнулася спачатку ахапіць цалкам, любіла абагульняць, рабіць вывады, як на сходзе.

У аддзеле механізацыі яна раптам пачала апавядаць пра перспектыву электраворыва ў раёне. Дуня ўзнёсла выказала гэту думку. Мы якраз стаялі каля самаходнага камбайна.

— Вы, пісьменнікі, павінны выбіраць самае важнае ў жыцці. Не сярэдняе матэматычнае! Такое звяно, такую ізюмінку, на якую трэба націснуць і — выцягнеш усю складаную праблему, — пры выхадзе з выстаўкі сказала яна, падкрэсліваючы некаторыя словы, дзесьці ўжо чутыя, пераблытаныя, але ўсёроўна іх можна было слухаць з цікавасцю.

Не, у Яўдакеі Пятроўны былі рознастайныя веды. Бойкасць гаворкі і тое, што пры гэтым у яе прыгожа ўздрыгвала і сур'ёзна насуплівалася левае брыво, захапіць маглі кожнага.

Мяне, асабіста, здзівіла смеласць думкі пра электраворыва. Значыць, затрымка была ў крыніцы энергіі. Як Дуня бралася за гэту цяжкую, новую справу!

Але часамі мне здавалася, быццам Яўдакея Пятроўна сумысля пакарае слухача гэтымі ведамі, сваімі манерамі. Тады я пачынаў насцярожана прыслухоўвацца, прыглядацца. Чаму ў яе вырываюцца часамі напышлівыя фразы, у той час як яна такая непасрэдная і простая дзяўчына?

...Мы абедалі, але нават у кожным сваім руху мая знаёмая старалася і тут паказаць нешта вядучае. Ого, Дуня ўмела падаваць прыклад!

Нарэшце, афіцыянтка прынесла нам чай.

Я і Дуня ўпраўляліся за сталом амаль адначасова. Не хацелася мне адставаць ад яе.

Яна ўзялася за шклянку, і — я. Яна адпіла, і я таксама. Аднак, калі я глынуў, то мне здалося, што чай не салодкі. Я глынуў яшчэ і сказаў:

— Як вам, Яўдакея Пятроўна, чай! Здаецца, ён салёны?

Я сказаў не таму, што хацеў нашу размову, як кажуць, з высокіх матэрый зрабіць звычайнай. Не, сапраўды, чай быў нейкі салёны. Але Дуня, Яўдакея Пятроўна, усміхнулася роўна так, як увесь дзень усміхалася з мяне, калі я на выстаўцы затрымліваўся, распытваючы, дапытваючыся ўпершыню пачутае.

— Вы цукру, цукру падсыпце. Вось! — сказала яна. — Гэта вы не рассмакавалі... У нас, наогул, вада такая.

І сама, размешваючы кінуты ў шклянку цукар, Яўдакея Пятроўна ўсхвалёвана, так, як яна гэта ўмела, пачала:

— Вы не ведаеце, якія багатыя нашы землі. Тут, у раёне, большасць крыніц з прымессю солі. Пакаштуеш вады і адчуеш гэты смак мінеральных солей. А ўсё што? Прызнак багатых залежаў. Праўда, праўда! Іншы раз прыкінеш, колькі яшчэ не кранута, нязведана багатых выкапняў, запасаў у глыбокіх нетрах нашай зямлі. А мы ходзім, ходзім па ёй, не ведаем, што пад намі... А, падумаеш!? Балота, возера!.. Не-е, тут ёсць столькі багацця, што калупні, капні, знойдзеш скарб! Усё, усё у нас ёсць!

— Безумоўна, — пацвердзіў я.

— Я пасылала адносіну ў Мінск. Пісала ў Акадэмію навук. Ад імя райвыканкома. Нашы-ж воды могуць быць лячэбнымі... Тут такі краявід, курорт. Ці можа Эльтон, Баскунчак які новы... Ха-ха-ха! Дык чаму-ж не выслаць экспедыцыю?.. Уга, дзе вы бачылі!? Глыбінны раён! Каму ахвота ў такую глухамань ехаць... Вось так і жывем.

Наглядзеўшыся на выстаўцы, наслухаўшыся Яўдакеі Пятроўны, як яна з гонарам падкрэслівала свой раён, я сапраўды пачынаў абурацца разам з ёю. Я падумаў, што варта зайсці ў Акадэмію навук і навесці спраўкі, дзе сігналы з раёна аб мінеральных знаходках, хацеў аб гэтым загаварыць, як здарыўся выпадак, якога не чакаў ні я, ні Яўдакея Пятроўна.

Да нас падышла афіцыянтка. Падышла паспешна і пакланілася неяк вінавата. Яна адразу ўзялася за шклянку на спадачку перад Яўдакеяй Пятроўнай. У гутарцы Дуня ледзьледзь адпіла, а я — наадварот, слухаючы яе, з поспехам адчуваў, што абганяю ў гэтай справе сваю «вядучую».

— Выбачайце! — звярнулася яна і ў мой бок: — Дайце вашу шклянку. Выбачайце! Гэта ўсё Юрка вінаваты. Кухар наш.

Афіцыянтка працягнула руку да майго спадачка, а мы з Дуняй, пераглянуўшыся, нічога не разумелі. Які Юрка?

Потым Яўдакея Пятроўна, як і належыць ёй, адказнай, строга запытала:

— Не разумею. Навошта ты забіраеш?

— Я вам чаю падам... Замяню, — вінавата сказала дзяўчына. Відно было, як тварык яе спахмурнеў ад спалоху.

— Дык, а гэта што?

— Кухар наш вінаваты. Я не знала, Яўдакея Пятроўна, выбачайце! Юрка думаў, што вада ў тытане на булён гатуецца і засыпаў туды солі. Прабачце, я зараз!

— Дзе ён, кухар? — раптам устала Яўдакея Пятроўна і ўслед за афіцыянткай накіравалася на кухню.

Я не зразумеў выразу яе аблічча, але спакойнасць у голасе гаварыла аб рашучасці Дуні высветліць непаразуменне. Усё зрабіць так, як трэба! Я ўспомніў яе словы, што памылкі трэба прызнаваць і выпраўляць. Як-жа ў нас атрымаецца?

«Вось дык чайчык!» — падумаў я, успомніўшы пачатак яды.

Афіцыянтка зараз-жа вярнулася і падала шклянку густа заваранага чаю.

Пачакаўшы, выйшла з кухні Дуня. Яна супынілася, не даходзячы да стала.

— Мяне клічуць па тэлефону. Прабачайце, скупа і паважна сказала яна.—Вы-ж заглянеце яшчэ да нас? Ваша камандзіроўка ў мяне.

І яна прыгожа, горда пакрочыла да выхаду.

«Так, камандзіроўка мая ў яе», — падумаў я. У Дуні. Не, не ў Дуні, у Яўдакеі Пятроўны. Аднак, як-жа рабіла яе іншай, непазнавальнай гэта двайное імя. Не сталай, а пастарэлай. Хоць яшчэ яна і маладая дзяўчына, а ўжо рабілася такой. Ці то гэта ад стомленасці, ці то ад спаўнення жаданняў і поспехаў у жыцці.

І яшчэ я падумаў: няўжо яна тут заўсёды абедае? Хіба яна не гатуе сама сабе чай, што не адчула яго смаку? От, каб дома ў яе адбылося такое здарэнне?.. Цікава, ці ёсць у яе муж? Я хацеў даведацца, але не было ў каго запытацца, ды гэта, як кажуць, пытанне не грамадскай значнасці.

Пакуль я ўспамінаў, перабіраў усю з ёю размову, у мяне было солана ў роце.



Мікола АРОЧКА

## У той дзень

Я помню ў маленстве той дзень,
Семнаццаты дзень верасьнёўскі.
Мы беглі туды, дзе гудзеў
Бальшак за суседняю вёскай.

Гудзеў, як тугая струна,
І вабіў дзіцячыя сэрцы.

Тады да грудзей сваіх нас
Тулілі, як родных, армейцы.

А шляхам плылі, як рака,
Пад алымі сцягамі часці.
Тым днём на салдацкіх руках
Адчуў я прыход свайго шчасця.

## Дзень майго нараджэння

Я спытаў цябе неяк, матуля,
Калі прыдуць мае імяніны.
А ты, помніцца, толькі ўздыхнула,
Не знайшоўшы адказу для сына...
Пры панах у цямноце жыла ты,
Галадала і мерзла у замяць.

І жыцця майго першую дату
Не змагла зберагчы твая памяць.
Не смуткуй, мая родная, знаю,
Добра знаю свой дзень нараджэння.
Я па праву з табой адзначаю
Імяніны у дзень вызвалення.

## МАЛАДЫЯ ТАЛЕНТЫ

# У шэкспіраўскім спектаклі

Неўміручая трагедыя Шэкспіра «Кароль Лір» уводзіць нас у далёкія часы ранняга брытанскага сярэдневякоўя. Васьмідзесяцігадовы кароль вырашыў падзяліць свае ўладанні і ўладу паміж трыма дочкамі. У адной з залаў змрочнага старадаўняга замка ў прысутнасці прыдворных Лір абвяшчае сваё рашэнне.

Так пачынаецца дзея гэтай п'есы, якая з нязменным поспехам ідзе ўжо трэці сезон на сцэне Дзяржаўнага рускага тэатра БССР. Ролю малодшай дачкі Ліра — Кардэліі — у спектаклі выконвае маладая актрыса І. Лакштанава.

...Дзве старэйшыя дачкі караля, крывадушныя, прагныя і злосныя, гавораць пышныя, але фальшывыя прамовы аб любві да бацькі. Кардэлія абурана гэтым. Крывадушнасць і фальш агідныя для яе. Сапраўдныя, глыбокія пачуцці не любяць гучных фраз. Калі прыходзіць яе чарга сказаць бацьку пра сваю любоў, яна гаворыць толькі некалькі слоў аб тым, што



І. Лакштанава ў ролі Кардэліі.

не можа не любіць яго, як дачка, якую ён выгадаваў і любіў.

Кароль, упарты дэспат, які прывык да паслухмянага падпарадкавання (яго ролю выдатна выконвае народны артыст БССР А. Кістаў), раз'юшаны. Ён выганяе любімую дачку. Але Кардэлія—сапраўдная дачка Ліра: яе не палохае выгнанне. Крывіць душой, фальшывіць — страшней.

«Ісціна пачуццяў, праўдападобнасць адчуванняў у мяркуемых абставінах» — вось што цаніў у Шэкспіра Пушкін. У поўнай меры гэтыя словы павінны адносіцца і да сцэнічнага ўвасаблення вобразаў вялікага англійскага драматурга. Удача Лакштанавай — Кардэліі ў поўным раскрыцці шэкспіраўскага вобраза. У першай карціне трагедыі перад гледачом — дзяўчына, якая шчыра любіць бацьку. Яна лепш, чым асляплены гневам Лір, бачыць характар сваіх сясцёр, але маўчыць. Атрыманыя ў спадчыну ад бацькі ўпартасць, гонар і самалюбства прымушаюць яе моўчкі глядзець на ўсё, што адбываецца, і маўкліва прыняць страшную няміласць бацькі.

Другі раз мы сустракаемся з Кардэліяй пасля таго, як Лір з дэспатычнага караля ператварыўся ў няшчаснага старога, які спазнаў страшэнную несправядлівасць. Любоў да бацькі, нянавісць да сясцёр, якія ўвасабляюць свет прыгнёту і цемры, прымушаюць Кардэлію накіраваць на сваю радзіму французскія войскі. Але яна вядзе вайну за аднаўленне справядлівасці, за перамогу светлых сіл.

З вялікім, сапраўды трагедыйным майстэрствам праводзіць Лакштанава гэтыя сцэны. Яна цвёрдая і мужная ў любві да бацькі, у любві да радзімы.

Шэкспір, які жыў у эпоху, калі пачыналі складвацца капіталістычныя адносіны, у эпоху, калі з-за золата і ўлады ішлі на любыя злачынствы, не толькі бачыў і ўмеў паказваць класавыя супярэчнасці, але і верыў у перамогу светлых сіл. Нават у «Каралі Ліры», нягледзячы на гібель Кардэліі і смерць Ліра, фінал аптымістычны. І ўвесь спектакль у Рускім тэатры (у чым несумненная заслуга пастаноўшчыка заслужанага дзеяча мастацтва БССР В. Фёдарава і ўсяго акторскага калектыва) прасякнуты шэкспіраўскай верай у перамогу чалавечага, светлага пачатку ў людзях. Вялікая роля ў такім гучанні трагедыі, безумоўна, належыць Лакштанавай, якая здолела стварыць вобраз чыстай, шчырай, моцнай у сваёй любві Кардэліі.

Праца маладой актрысы была высока ацэнена крытыкамі Масквы, грамадскасцю Беларусі, Ленінграда, Львова, Одэсы і другіх гарадоў, дзе тэатр быў на гастролях. Цікавы і яшчэ адзін водгук. У час гастролей тэатра ў Ленінградзе «Караля Ліра» глядзелі прадстаўнікі дзеячоў культуры Англіі, якія знаходзіліся ў Савецкім Саюзе. Вось што напісаў вядомы рэжысёр Джон Фернальд: «Місіс Лакштанава была, несумненна, лепшай Кардэліяй, якую я бачыў калі-небудзь раней. Яна выглядала зусім маладой, аднак была дастаткова сталай і дастаткова добрай актрысай, каб паказаць сапраўдныя душэўныя пакуты, а Кардэлія павінна выявіць натуральныя пакуты дачкі, якая шкадуе свайго няшчаснага бацьку».

* * *

З другіх вобразаў, створаных Лакштанавай на сцэне Рускага тэатра, больш за ўсё запамінаецца Анна ў драме «Варвары» Максіма Горкага. Гэта — руская інтэлігентная жанчына перадрэвалюцыйных гадоў. Яна непасрэдная, летуценная, але бездапаможная. Яе слабасць асабліва праяўляецца ў каханні да мужа. Анна — Лакштанава ахвяра «варвараў», прадстаўнікоў буржуазнай цывілізацыі. Яна марыць аб чалавеку-героі, чалавеку, які павядзе яе за сабой, але сама не здольна ні да якога колькі-небудзь актыўнага ўмяшання ў жыццё. Вобраз, створаны Лакштанавай у гэтым спектаклі, дапамагае выкрыццю цывілізаваных «варвараў» капіталістычнага свету.

Нягледзячы на тое, што творчы шлях Лакштанавай яшчэ невялікі, ужо смела можна гаварыць аб яе акторскім абліччы, аб своеасаблівым вырашэнні складаных і простых роляў. Гэта перш за ўсё раскрыццё ўнутранага свету вобраза, глыбокая лірычнасць, уменне пераўвасабляцца і жыць на сцэне жыццём сваёй гераіні.

За заслугі ў галіне савецкага тэатральнага мастацтва І. Лакштанавай у мінулым месяцы прысвоена ганаровае званне заслужанай артысткі БССР.

**Б. МАРТЫНАЎ.**

# Каб уславіць наша шчасце

Пасля дэмабілізацыі з Савецкай Арміі сяржант Юры Семяняка прыехаў у свой родны горад Гродна. Юнак марыў аб музыцы. Яшчэ ў арміі ён удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці, спрабаваў свае сілы ў стварэнні песень. Таварышы па часці хвалілі іх, а сам ён быў незадаволены сваімі першымі спробамі. Трэба было вучыцца, але ў Гродна не было кансерваторыі.

Юнаку пашанцавала. Аднойчы ён прысутнічаў на канцэрце вядомага беларускага хора пад кіраўніцтвам народнага артыста БССР Рыгора Раманавіча Шырмы. Юнака надзвычай узрушыла і захапіла праграма канцэрта. Будучы кампазітар адчуў вялікую прыгажосць беларускай народнай песні, яе меладычнасць, задушэўнасць. «Вось у каго трэба вучыцца — у народа», — вырашыў Юры Семяняка. Ён папрасіў Рыгора Раманавіча залічыць яго ў Дзяржаўны народны хор.

Вядомы збіральнік народных песень, тонкі знаўца музыкі, Р. Р. Шырма вельмі цёпла паставіўся да кампазітарскіх пачынанняў Ю. Семяняка. Увагу пачынаючага кампазітара ён накіраваў на глыбокае вывучэнне народнага песеннага мастацтва. І гэта прынесла першы поспех Ю. Семяняку. У духу народных матываў ён напісаў першую сваю песню «Ой, шумяць лясы зялёныя». Шырока напеўная, меладычная, гэтая песня адразу спадабалася харавым калектывам рэспублікі. Яе светлая, бадзёрая мелодыя глыбока выражае пачуцці шчаслівага савецкага чалавека.

У працы над песнямі Юры Семяняка адчуваў, што яму нехапае прафесійных ведаў, што для таго, каб ствараць музыку, трэба ведаць яе гісторыю, быць добра знаёмым з рускай і сусветнай музычнай культурай, і юнак паступае ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, дзе пачынае заняткі пад кіраўніцтвам вядомага беларускага кампазітара А. В. Багатырова.

Цяпер Юры Семяняка — студэнт 3-га курса кансерваторыі. Малады кампазітар настойліва авалодвае музычным мастацтвам. Але ён не парывае з народным хорам, працуе яго канцэртмайстрам. Праца ў хоры дапамагае маладому кампазітару ў яго творчых пошуках. Народныя творы з'яўляюцца для Ю. Семяняка крыніцай натхнення, сапраўднай скарбніцай мастацтва. Пад іх уплывам ім створаны рамансы «Па-над рэчкай» і «Вецярок», якія ўвайшлі ў шматлікія канцэртныя праграмы.

Не ўсё ўдаецца маладому кампазітару. У некаторых яго творах чуваць перапевы даўно вядомых мелодый. Гэта сведчыць аб тым, што кампазітару трэба яшчэ многа і ўпарта працаваць над павышэннем свайго майстэрства, і Юры Семяняка аддае ўсе сілы гэтай справе. Ён імкнецца і настойліва шукае новыя сродкі музычнай выразнасці, новыя цудоўныя матывы, якія-б дастойна ўслаўлялі шчасце савецкіх людзей.

**Л. МАЛАШ.**



Ю. Семяняка.







Беларускія мастакі і скульптары паспяхова працуюць над новымі мастацкімі творамі. За апошні час напісана і вылеглена сотні карцін і скульптур, якія ўслаўляюць веліч мірнай працы нашага народа, яго высокародныя думы і імкненні. У творах усіх жанраў — у жывапісу, графіцы, скульптуры — можна сустрэць яркія вобразы нашых гераічных сучаснікаў. Асабліва плённа працуе старэйшы скульптар Беларусі З. Азгур. Ім створана цэлая галерэя скульптурных партрэтаў лепшых людзей рэспублікі — перадавікоў сельскай гаспадаркі і прамысловасці. З асаблівым натхненнем працаваў скульптар над сваёй апошняй работай — «Калыханка», фотаздымак якой мы даем. З вялікай мастацкай сілай перададзены ў ёй пачуцці маладой маці. Малады мастак Н. Воранаў у сваёй карціне «Цікавая кніга» знайшоў праўдзівыя дэталі для раскрыцця пачуццяў совецкіх людзей. Удалай з'яўляецца карціна А. Шыбнёва «Пейзаж», рэпрадукцыю з якой мы друкуем.

Фото І. Салавейчыка.



— Ну як, спадабаюся гледачам? (Вучні Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча Святлана Цітовіч, Святлана Шалюта (злева) і Міхаіл Грышчанка перад выхадам на сцэну).

Фото А. Дзітлава.




**Янка МАЎР**

**Навукова-фантастычная аповесць** *

Мал. В. Ціхановіча.

### 5. НА МАРСЕ

#### Дзедава «камандзіроўка»

Прайшло колькі часу, і на гэты раз ужо сам дзед узняў пытанне аб новым падарожжы.

— Тое, што вы бачылі на Месяцы, для навукі не з'яўляецца нечым новым. Няхітрая прырода Месяца вывучана намі не горш за прыроду Зямлі. А вось наконт Марса гэтага сказаць нельга. Вучоныя маюць аб ім некаторыя дакладныя веды. Аднак і сярод вучоных ёсць рознагалоссі. А што датычыцца пісьменнікаў, дык у іх зусім разнабой. Так англійскі пісьменнік Герберт Уэльс паказаў жыхароў Марса такімі разумнымі, што істота марсіяніна ператварылася ў велізарную галаву, са шматкілограмовымі мазгамі, а ўсё цела зрабілася маленькім дадаткам да галавы. Гэтыя марсіяне былі такія бездапаможныя, што самі не маглі ні хадзіць, ні працаваць, а карысталіся спецыяльнымі апаратамі, якія нехта-ж павінен быў рабіць. Рускі пісьменнік Аляксей Талстой апісаў падарожжа на Марс інжынера Лося і яго таварыша Гусева. Тут ужо марсіяне паказаны як нашы людзі, толькі больш кволыя і, па сутнасці, менш цывілізаваныя, чым жыхары Зямлі. Аднак невядома, чаму марсіяне дасягнулі такой тэхнікі якой не ведаем мы. А самае галоўнае, прырода Марса паказана зусім не так, як гаворыць навука. Напрыклад: па даных навукі там, нават на экватары, ноччу мароз дасягае 45 градусаў, а марсіяне сядзяць сабе каля сажалкі ў лёгкім адзенні, як у нас улетку. Ды што там казаць, вы і самі чыталі гэтую кнігу. Вось цяпер ёсць магчымасць паглядзець, як там у сапраўднасці. Гэта мяне надзвычай цікавіць. Я магу сказаць, што пасылаю вас у камандзіроўку на Марс.

З дапамогай дзеда ўнукі пачалі падрыхтоўвацца да падарожжа на Марс. Прачыталі ўсю літаратуру аб ім, узялі сваё самае цёплае адзенне, валёнкі, рукавіцы, а таксама дыхальныя апараты. На ўсякі выпадак Светазар узяў яшчэ невялікі рэвальвер-браўнінг. Дзед увесь час даваў ім парады і нарэшце сам адправіў іх у дарогу.

#### Няўтульная планета

Калі дзеці падняліся ў вышэйшыя слаі атмасферы і неба перад імі стала цёмным, яны ўбачылі маленькую чырванаватую зорку. Гэта і быў Марс.

Ён хутка павялічваўся, стаў як сподак, потым як Месяц. Раптам падарожнікі адчулі штуршок, адзін, другі, а потым пачулі, нібы каменны град сыплецца на іх машыну. Гэта была невялікая паласа астэроідаў, якія часта сустракаюцца ў нябесных прасторах. Каб машына была зроблена не з фантазіту, а з якога-небудзь больш звычайнага металу, то яна не вытрымала-б такіх удараў.

— Вось і ляці тут на звычайнай ракеце!.. — заўважыў Светазар. — Такой бамбардыроўкі не вытрымаў-бы ніякі снарад, апрача нашага фантамабіля.

— Ну, можа знойдуць другую дарогу, у абход, — адказала Святлана.

Скончылася бамбардыроўка, а Марс тым часам зрабіўся такі, як Зямля, якую яны наглядалі з Месяца. І тут адразу выявілася асноўная розніца паміж Зямлёй і Марсам: на Марсе ніякія воблакі не засланялі яго выгляду. Так, ужо можна было заўважыць, што большую частку паверхні Марса займае суша, а вада на ёй размясцілася адносна невялікімі азёрамі ці морамі. Толькі ў адным месцы, ля краю дыска, можна было заўважыць водную прастору, якая нагадвала наш акіян, ды і то не больш за Індыйскі. Але пакуль што з гэтага нельга было рабіць канчатковы вывад аб размеркаванні вады і сушы на Марсе, бо заставалася яшчэ невядомай другая палова яго.

Вельмі выразна відаць быў адзін з полюсаў Марса, на вялікай плошчы пакрыты снегам ці лёдам. А процілеглы полюс, нахілены да Сонца, быў не белы, а цьмяны. Значыцца, тут было лета.

— Давай сюды і апусцімся, — прапанавала Святлана.

Светазар моўчкі кіўнуў галавой— і яны апусціліся на Поўночны полюс Марса. Адчынілі дзверы сваёй кабіны і адразу пачулі, што ім нехапае паветра. Ды і не дзіва: на Марсе бадай такое самае разрэджанае паветра, як на вяршыні Эверэста, г. зн. на вышыні васьмі кіламетраў. На такой вышыні, як вядома, без дадатковага кіслароду чалавек жыць не можа, і нашым падарожнікам прыйшлося адразу-ж надзяваць дыхальныя апараты, як тады, на Месяцы. Святлана гатова была плакаць ад прыкрасці.

— Каб ведала, не ехала-б сюды, — скардзілася яна. — Гэта-ж пакута ўвесь час хадзіць з такой штукай на галаве.

— Хочаш не хочаш, а дзедаву камандзіроўку мы павінны выканаць, — сказаў Светазар, прымацоўваючы маску. — Добра ўжо і тое, што мы чуем адзін аднаго і што не трэба надзяваць на галаву другі апарат.

Вышлі яны з машыны, азірнуліся навакол, і так маркотна ім зрабілася, хоць плач.

Марс знаходзіцца ад Сонца ў сярэднім на сто мільёнаў кіламетраў далей, чым Зямля, і атрымлівае ад Сонца ў два разы менш святла і цяпла. Таму на Марсе поўдзённы сонечны час нагадвае наш поўзмрочны вечар. І ўжо ад аднаго гэтага падарожнікам зрабілася поўзмрочна на сэрцы.

Пад нагамі ў іх была заледзянелая зямля ў тым стане, у якім яна бывае пры нулі градусаў, мокрая, безжыццёвая. І ў такім стане яна тут застаецца, па нашаму часу каля года, а па-марсаўскаму гэта будзе каля поўгода, бо

* Пачатак гл. у №№ 9, 10 і 11 часопіса.

марсаўскі год роўны нашым двум гадам *.

Усё лета вада патрошку сцякае з полюса і часта прыпыняецца, калі тэмпература не падымаецца вышэй нуля. Усё гэтае поўгоддзе, а па-нашаму год, тут, вядома, свеціць Сонца, якое на Марсе куды меншае, чым на Зямлі.

— Ну што-ж, — сказала Святлана, — на полюсе нічога добрага і не можа быць, паедзем пад экватар.

Яны селі ў машыну і накіраваліся на Поўдзень. Спачатку ехалі павольна, прыглядаючыся да мясцовасці. Але прыглядацца не было да чаго, — усё тая-ж голая прамёрзлая зямля. І тады яны адразу «перасокквалі» на сотні кілометраў.

Нарэшце яны даехалі да такога месца, дзе Сонца схавалася за гарызонтам. Гэта быў Палярны круг, які на Марсе знаходзіцца пад 65-м градусам шыраты. На Зямлі, як вядома, пад 66,5 градуса; розніца невялікая, але на прыродзе гэтая розніца надта вялікая. На Зямлі тут знаходзіцца тундра, расце значная колькасць палярнай расліннасці, сустракаюцца птушкі, жывёлы, у рэках і морах ёсць рыба, а тут нічога падобнага не відаць. Сонца тут хаваецца ненадоўга: ноч, як і на Зямлі, працягваецца спачатку некалькі мінут, потым, па дарозе на Поўдзень, усё болей і болей, пакуль на экватары не дасягне роўна паловы сутак. А гэтая палова на Марсе будзе мець 12 гадзін ды яшчэ каля 19 мінут. Зноў розніца з Зямлёй невялікая, але розніца ў тэмпературы яшчэ большая.

Як толькі схавалася сонца, знадворку пачалася зіма, сапраўдная зіма, мусіць, градусаў на дваццаць. Хоць нашым падарожнікам у машыне не было холадна, ім абрыдла такая ноч, і яны перанесліся ў Поўднёвае поўшар'е, дзе ў гэты час быў дзень. Але зноў бяда: тут у гэты час была зіма і мароз такі самы быў удзень, як там уначы.

— Дзе-ж тады знайсці больш утульны куток? — раіліся падарожнікі. — Пэўна — на экватары.

Апусціліся на экватары. Ноч ужо канчалася, але за начны час зямля так астыла, што і тут перад узыходам сонца тэмпература апусцілася да 45 градусаў. Такім чынам, падарожнікі пабывалі ў трох розных пунктах Марса і нідзе не знайшлі тэмпературы вышэй нуля.

— Цікава, — бурчэлі яны, — дзе тут могуць жыць звышкультурныя марсіяне? Дзе тут знаходзіцца выдатная сталіца іх Саацэра? Дзе тут могуць быць іхнія шахты, фабрыкі, заводы? Тут назат іхняй жывёліне «хашы» няма як пражыць. Давай пераляцім на другі бок экватара, дзе цяпер павінна быць трапічная гарачыня.

### Першыя жывыя істоты

Яны паляцелі насустрач сонцу. Вылецеўшы на святло, сцішылі ход машыны і пачалі пільна прыглядацца да паверхні, часам зніжаючыся да самай зямлі. «Трапічны пояс» на Марсе быў незвычайны. Там, дзе толькі што ўзышло сонца, усюды бялеўся іней, а дзе была вада — лёд. Дзе Сонца было высока над галавой, там іней растаў, а лёд у вадаёмах рабіўся ўсё танейшым і танейшым.

— Пакуль ён растане, — засмяялася Святлана, — прыдзе ноч, і вадзе зноў прыдзецца замярзаць.

Які-ж быў там краявід? На гэтае пытанне вельмі трапна адказала Святлана:

— Тундра!

Сапраўды, краявід больш за ўсё нагадваў тундру. Лясоў ніякіх не было відаць, калі не лічыць прыціснутых да зямлі нейкіх кустоў ці дрэў без лісцяў. Уся іншая прастора пакрыта мохам ці раслінай, вельмі падобнай да нашага моху. Сярод гэтага моху прасвечвала вада, то ў выглядзе балота, то лужын, то сажалак, якія ланцугом цягнуліся на Поўнач. Такія балоцістыя лагчыны часам змяняліся якім-небудзь нагор'ем, у выглядзе плато, то горнымі хрыбтамі, якія вельмі нагадвалі Месячныя горы, бо і на Марсавых горах не было ніякай расліннасці, не было нават снегу. Затым зноў ішла лагчына з балотцамі і мохам. Ніводнай ракі пакуль не заўважылі, але можна было прасачыць, што балоты, азёры і зялёныя лагчыны, як нітачкай, злучаліся вузенькім ручайком. Можа гэта і была тая вада, якая выцякала струменьчыкамі з Поўночнага полюса?!

Калі фантамабіль дайшоў да гэтага месца, пасажыры прызямліліся, каб не сказаць — «прымарсіліся».



— Вось тут павінен быць самы гарачы пункт на Марсе, — сказаў Светазар. — Вылазь, пагрэемся.

Пагрэцца, сапраўды, можна было, бо тэмпература дасягала градусаў дваццаці цяпла. Але для тропікаў гэта было не надта многа.

Высадзіліся яны на камяністай сухой мясцовасці. Большасць тэрыторыі Марса складалася з такой пустыні.

— Ніводнай раслінкі і ніводнай казяўкі... — прамовіла Святлана, прысеўшы на зямлю.

— Як ім затрымацца, калі ноччу прыціскае страшэнны мароз, — адказаў Светазар. — Наогул, недарэчная краіна. Зусім незразумела, чаму гэта нашы людзі насялялі яе звышразумнымі істотамі. Давай спынімся лепш ля таго возера.

Далёка на гарызонце паблісквала на сонцы досыць значнае возера. Яны пад'ехалі да яго, але блізка даступіцца не маглі: усе подступы былі балоцістыя. Направа было сушэй, тут пачыналіся ўзгоркі, а за імі ўздымаліся горы. Налева ад возера ішла вялікая раўніна, пакрытая той самай тундравай расліннасцю, якую падарожнікі наглядалі зверху.

Яны пайшлі туды, каб прыглядзецца да гэтай зеляніны бліжэй. Нахіліліся і ўбачылі, што галоўная маса расліны гэта не мох, а нібы парасткі хвоі, нібы маленькія сасонкі. Толькі галінкі раслі не ў бакі, а працісkаліся да сярэдзіны, іглiцы таксама прыціскаліся да сцяблінак і пакрывалі іх, нібы поўсцю.

— Кактус нейкі, ці што? — заўважыла Святлана.

— Мы назавем гэта палярным кактусам, — сказаў Светазар.

— Мы маем права даваць назвы ўсяму, што ўбачым першымі.

Пад гэтымі кактусамі туліліся яшчэ расліны, больш падобныя да моху. Раптам у паветры пачуўся свіст, як быццам нехта моцна махаў пугаю. Глянулі — ляціць птушка. Першая жывая істота! Яна толькі што ўзнялася з балота і ляцела да гор, марудна, нязграбна. Кідалася ў вочы, што крыллі яе надта вялікія, доўгія, а цела пакрыта не пер'ем, а поўсцю.

— Дзе-ж яна сядзіць у начныя марозы? — зацікавілася Святлана.

— Ды, мусіць, у гэтых горах, — адказаў Светазар. — Там знойдуцца такія норы, куды ніякі мароз не дабярэцца. А крыллі такія доўгія яна павінна мець таму, што, як бачыш, паветра тут рэдкае, і ёй абаперціся на яго вельмі цяжка.

— А чым яна жывіцца?

— Трэба думаць, што ў балоце водзяцца якія-небудзь жывёлінкі, — тлумачыў Светазар, — можа, якія-небудзь жабы ці рыба. Яны могуць ноч пераждаць і пад лёдам. Шкада, што мы не можам падыйсці бліжэй да вады.

— Глядзі, глядзі! — закрычала Святлана. — На тым беразе нехта ідзе.

— Дзе? Хто?! — усхапіўся Светазар.

З правага боку па беразе возера ішла, матляючы галавой, жывёліна, падобная да белага мядзведзя, толькі колер скуры яе быў шэры. Апрача таго, галава гэтай жывёліны больш была падобна да галавы малпы, чым мядзведзя. Іншыя асаблівасці здалёк нельга было разгледзець.

Але самым цікавым было тое, што на спіне яе была нібы вязанка галля. Мала таго, можна было заўважыць, што гэта былі дзве вязанкі, звязаныя разам і перакінутыя праз спіну, як у нас часам нагружаюць каня, а часцей за ўсё мула.

У падарожнікаў захапіла дух.

— Значыцца, гэта мядзведзь хатні... — прашапталі яны. — Значыцца, тут недзе ёсць людзі.

Іх ахапіла такая цікаўнасць, што па ўсім целе пайшлі нервовыя дрыжыкі. Людзі!!! Сапраўдныя марсіяне! Якія яны?.. Як яны жывуць у гэтых незвычайных умовах?.. Ці можна будзе з імі мірна пазнаёміцца? І многа падобных пытанняў закружылася ў галаве нашых падарожнікаў.

Мядзведзь тым часам падышоў да ўзгоркаў і знік за імі. Падарожнікі ўвесь час сачылі за ім і паварочваліся ў той бок, куды ён ішоў. Калі ён знік, яны якраз глядзелі ў той бок, дзе стаяла іх машына, і некалькі хвілін не заўважалі, што яе ўжо няма.

### Незвычайныя сябры

Такога крыку, які вырваўся ў дзяцей, не чулі не толькі на Марсе, але, мусіць, і на Зямлі. Не толькі ў Святланы, але і ў Светазара паліліся з вачэй слёзы. Хлопчык на гэты раз зусім забыўся, што ён «мужчына». Яны пабеглі да таго месца, дзе стаяла машына. Перш за ўсё, яны звярнулі ўвагу, што вакол яе былі не чалавечыя сляды, а мядзведжыя. Няўжо мядзведзі ўгналі машыну? Калі тут мядзведзі такія разумныя, то якія-ж разумныя павінны быць людзі!

Сляды колаў вялі да тых узгоркаў, дзе знік заўважаны імі мядзведзь. Значыцца, там жыло іх некалькі. Як-жа цяпер ісці ў логава мядзведзяў па машыну? Праўда, у Светазара за поясам быў браўнінг, але нідзе яшчэ не было чуваць, каб паляўнічы ішоў у бярлогу мядзведзяў з маленькім рэвальверам. Тым больш, калі паляўнічы меў усяго пятнаццаць гадоў. Смяротны жах сціснуў сэрцы падарожнікаў. Вечар, хутка зойдзе сонца, пачнуцца марозы, і яны застануцца на голай зямлі... пад адкрытым небам... Якая жахлівая смерць!.. Светазар нахмурыў бровы, узяў у рукі рэвальвер і сказаў:

— Усёроўна смерць, дык лепш загінуць у баі. Развітаемся, сястрычка. — І ён нахіліўся, каб яе пацалаваць.

Але яна запратэставала:

— Не, не, і я з табой пайду.

— Ды чым-жа ты дапаможаш?

— Калі прыдзецца, то загінем разам, але адна я тут не застануся.

І яны ціхенька пайшлі па слядах машыны. Вось ужо і ўзгоркі, за якімі нешта павінна быць. След колаў абмінуў адзін узгорак, за ім — нічога; след пайшоў да другога, там — нібы ўваход у пячору. Але таксама — нікога не відаць

* Дакладней: марсаўскі год, або шлях Марса вакол Сонца, змяшчае ў сабе нашых 687 дзён.



След пайшоў далей, да падножжа гары. Адтуль чуўся шолах і ціхія, глухія гукі.

Светазар даў знак сястры, лёг сам на зямлю і зазірнуў наперад. Святлана бачыла, як ён са страхам адхіснуўся, але потым зноў стаў напружана глядзець. Дзяўчынка аж млела ад цікаўнасці і таксама стала высоўваць наперад галаву.

Яна ўбачыла бок гары, у якой відаць быў уваход у пячору. Перад уваходам стаяў фантамабіль, а вакол яго было не менш дзесятка мядзведзяў. Адны з іх хадзілі вакол машыны, краталі яе лапамі, другія сядзелі на задніх лапах і ўважліва разглядалі дзіўную рэч. Іх малпавыя морды здаваліся сур'ёзнымі, свядомымі.

Час-ад-часу яны буркалі, нібы нешта казалі адзін аднаму. Наогул гэтыя марсіяне стваралі мірнае, добрадушнае ўражанне. Але як да іх падступіцца? Ці страляць адразу?.. Ці напалохаць як-небудзь?..

Светазар выбраў апошні варыянт. Ён шапнуў сястры:

— Мы раптам выскачым і пачнем махаць рукамі, шумець, крычаць з усяе сілы. А я буду страляць уверх. Памятай, што ад твайго крыку і страшэннага выгляду будзе залежаць тваё жыццё.

Яны так і зрабілі. Светазар грозна замахаў рэвальверам і страляў уверх. Рэха павялічыла грукат у шмат разоў. Святлана не толькі махала рукамі, а яшчэ і падскоквала. Крычала яна так, нібы мядзведзі ўжо душаць яе.

Такі незвычайны канцэрт, вядома, уразіў мядзведзяў, але цяжка было-б сказаць, ці больш яны напалохаліся, ці больш здзівіліся. Дзве белыя, кволыя істоты не здаваліся ім магутнай сілай, але нечаканасць і незвычайнасць збянтэжылі мядзведзяў, і яны задам пачалі адступаць да ўваходу ў пячору.

Тады падарожнікі падбеглі да машыны, хуценька селі ў яе.

— Ура! Цяпер усё ў парадку! — крыкнуў Светазар.

Ім зрабілася так лёгка на сэрцы, такая радасць ахапіла іх, што і ўцякаць не хацелася. Таму яны і шлемаў на галаву не надзявалі. З задавальненнем знялі дыхальныя апараты і лёгка дыхалі «сваім уласным», зямным паветрам.

— Цяпер мы можам і пасядзець тут, адпачыць ды паглядзець, што будуць рабіць гэтыя марсіяне! — радаваліся дзеці.

А мядзведзі, убачыўшы, што ўсё стала ціха і спакойна, зноў пачалі набліжацца да машыны. Ціха, асцярожна пасоўваліся яны і нарэшце зноў акружылі машыну. На гэты раз ім нават цікавей было разглядаць не толькі машыну, але і пасажыраў у ёй. Спачатку Святлане вельмі страшна было, калі побач з ёю да шкла прыціскаўся брыдкі твар, але выраз гэтага брыдкага твару быў такі лагодны, такі спакойны, міралюбны, што страх паступова знікаў і замест яго з'яўлялася нешта падобнае да сімпатыі.

Мядзведзі ўсё прыціскаліся да шкла, нібы хацелі нешта сказаць. Часам гукі іх як быццам нагадвалі словы. Напрыклад: «гля... гу... ма... зы» і таму падобныя.

— Слухай, звярнулася Святлана да брата, — з іхніх гукаў, здаецца, выходзяць нейкія склады. Можа гэта іхняя мова? Мы-ж ведаем, што ўсе жывёлы разумеюць гукі сваіх братоў, усе яны маюць нібы сваю мову. Вось і ў іх ёсць нібы свая мова. А калі так, то гэтыя гукі-склады маюць свой сэнс, а значыцца, у галаве ў іх з'яўляюцца вобразы таго, аб чым яны думаюць. Ну, а мы-ж маем апарат, які ўспрымае такія вобразы і перадае нам.

Светазар аж зарагатаў ад задавальнення.

— А можа і сапраўды можна будзе з імі пагаварыць? Вось будзе пацеха! Яны хутка надзелі свае шапкі-перадатчыкі і пачалі прыслухоўвацца.

— Чуеш? — прашаптала Святлана. — Я чую, нібы мяне пытаюць: «адкуль»?

— І я таксама чую, — стрымліваючы дыханне, адказаў Светазар. — Так, гэта іхняе пытанне. Зараз ім адкажам.

Ён націснуў кнопку перадатчыка і крыкнуў.

— Мы з неба! — і ў дадатак падняў руку ўгару: — Мы адтуль.

І зараз-жа ўсе гэтыя мядзведзі паваліліся на зямлю тварамі ўніз і замерлі.

Аднак, ці маем мы права называць гэтыя стварэнні мядзведзямі? Толькі агульны іх выгляд нагадваў мядзведзяў, а галава, як мы бачылі, была малпавая, гэта значыць, набліжалася ўжо да чалавечай. Выраз іх твару і паводзіны яшчэ больш набліжалі іх да свядомых істот. Поўсць таксама адрознівалася ад мядзведжай: яна была сінявата-шэрая і мяккая. Заўважалася, што яны больш любілі сядзець на задніх нагах, чым стаяць на ўсіх чатырох. І нарэшце пярэднія ногі значна адрозніваліся ад мядзведжых: пальцы на іх былі даўгія, здольныя самастойна згінацца. Не, гэта былі не мядзведзі! А хто?..

Убачыўшы, што «мядзведзі» зразумелі яго словы і нават палі перад імі ніцма, Светазар сказаў Святлане:

— Няма чаго баяцца, выйдзем да іх.

Калі яны выйшлі, «мядзведзі» паднялі галовы і селі. Светазар падышоў да аднаго з іх, тыцнуў пальцам у грудзі і, паказаўшы рукой на другіх, спытаў:

— Вы хто?

Пытанне дайшло. У адказ пачулася:

— Яхі... яхі... яхі...

— Яхі, значыцца, яхі. Добра, — сказаў Светазар і, паказаўшы пальцам на сябе і на Святлану, прадставіўся: — А мы — людзі. Разумееце? Людзі. Лю-дзі, людзі.

Яхі паўтарылі:

— Лю... лю... — а на далейшае ў іх нехапіла здольнасці.

— Хай будзе «лю», — згадзіўся Светазар. — Для пачатку хопіць і гэтага. Значыцца, будзем знаёмы.

І ён працягнуў руку да рукі яха. Той, вядома, не зразумеў, чаго хоча гэты «лю», і боязна глядзеў у вочы. Хлопчык абедзвюма рукамі ўхапіў лапу яха і стаў яе трэсці, а той не ведаў, што рабіць, і нарыхтаваўся быў уцякаць. Але, на яго шчасце, Светазар пакінуў яго руку і ўзяўся за суседаву. Так ён абыйшоў бадай усіх яхаў.

Святлана не адважылася на такое блізкае знаёмства. Яна толькі вельмі ласкава ўсміхалася ім.

**Яхі засмяяліся**

Дружба была наладжана. Можна было зайсці і ў хату да новых сяброў. Госці не чакалі запрашэння: па шчырых тварах яхаў было відаць, што яны будуць вельмі рады, калі да іх зойдуць пасланцы з неба.

Увайшлі ў пячору. Пачыналася яна са шчыліны між двума скаламі, потым заварочвала ў бакі і ішла зігзагамі. Зрабілася зусім цёмна, але гаспадары адчувалі сябе тут, як на сонцы.

Раптам прамень святла прарэзаў цемру — гэта Светазар уключыў электрычны ліхтарык. Падзямелле напоўнілася незвычайнымі гукамі: тут былі і крыкі страху, і здзіўленне, і захапленне, і глыбокія ўздыхі. Усе твары яхаў павярнуліся да хлопчыка. Ён стаяў, падняўшы руку з ліхтарыкам і цешыўся эфектам.

— Ну, ідзем далей, таварышы! — сказаў ён яхам. — Супакойцеся. Нічога асаблівага тут няма—звычайны электрычны ліхтарык...

Але яхі не зводзілі з яго вачэй, і ён вымушаны быў пайсці наперад. Каб не адстаць, сястра ўчапілася за яго руку. Праз некаторы час пячора звузілася і знізілася так, што засталася толькі адтуліна.

— Ну, браточкі, паказвайце дарогу! — звярнуўся да яхаў Светазар.

Яхі адзін за адным палезлі ў адтуліну.

— Я баюся! — сказала Святлана, прыціскаючыся да брата.

— Цяпер ужо няма чаго баяцца, — адказаў ён. — Яны-ж цяпер самыя лепшыя нашы сябры. А паглядзець, як яны жывуць, мы абавязаны: трэба будзе дзеду даваць справаздачу.

Яны пралезлі праз адтуліну апошнімі.

— Вельмі добра зроблена! — пахваліў Светазар, паказваючы на адтуліну. — Гэтак і марозу цяжэй дабрацца сюды.

Святлана звярнула ўвагу на вязанку моху, якая ляжала каля адтуліны. Ахапак гэты быў не выпадковы, а звязаны ды скручаны, каб не разматаўся.

— Эге! — усклікнуў Светазар.— Ды гэта-ж спецыяльна зробленая затычка на ноч! Выбачайце, грамадзяне, я зусім не думаў, што вы дасягнулі такіх поспехаў.

Трэба сказаць, што «грамадзяне» не звярнулі ўвагі на яго словы, бо ўся іх увага была накіравана на прамень ад ліхтарыка. Гэты прамень «зайчыкам» бегаў па сценах пячоры ад кожнага руху Светазара, і яхі кожны раз паварочваліся да яго, а некаторыя нават рабілі спробу ўхапіць прамень.

Пячора, у якой яны знаходзіліся, была досыць вялікай і высокай, а ўверсе была адтуліна, праз якую відаць было сонечнае святло.

— І вентыляцыя ёсць! — задаволена сказаў Светазар. — Выходзіць, што і ў самых невыносных умовах можна прыстасавацца да жыцця.



— Але жыццё гэтае ўсёроўна застаецца нязносным, — сказала Святлана. — Уяві сабе, што нам трэба кожны вечар, пасля некалькігадзіннага лета, рыхтавацца да зімы, што мы павінны жыць у гэтай пячоры, што мы не маем ні цяпла, ні святла, што мы павінны жывіцца толькі гэтымі палярнымі кактусамі, што мы...

Светазар замахаў рукамі і закрычаў:

— Не, не! Не хачу ўяўляць, я і так разумею іх. Але я не бачу ніякіх адзнак таго, што яны тут жывуць; гэтае памяшканне, відаць, служыць ім парадная залай. Пашукаем, дзе яны спяць.

Між скал знайшлося некалькі праходаў, за якімі было многа калідораў і закуткаў, дзе і размясціліся спальні яхаў. Адзіным абсталяваннем гэтых спальняў был ахапкі сухога моху. Убачылі яны тут і тыя вязанкі галля, што нёс на спіне ях. Гэта быў палярны кактус, які служыў «хлебам» для яхаў. Сустракаліся і сухія сцяблы кактуса. Светазар узяў іх у рукі і сказаў Святлане:

— Гэта штука смалістая і павінна добра гарэць. Паколькі мы зрабіліся іхнімі шэфамі, то трэба пазнаёміць іх з агнём.

Ён спыніўся пасярэдзіне залы і крыкнуў:

— Таварышы яхі, сюды, бліжэй! Глядзіце ўважліва, што мы вам пакажам. Вы, небаракі, не ведаеце яшчэ, што такое агонь. А без агню наогул ніякага жыцця не можа быць. Дык вось, глядзіце і слухайце ўважліва.

Наўрад ці зразумелі слухачы гэтую ўрачыстую прамову, але ўсе яны падыйшлі зусім блізка, селі на заднія лапы і глядзелі на прамоўцу вельмі ўважліва. Светазар пагасіў ліхтарык. Усе яны войкнулі, нібы іх раніла страла.

— Пачакайце, пачакайце, — супакоіў Светазар. — Зараз будзе вам другі агонь.

Хлопчык выняў з кішэні карабок запалак, прысеў на зямлю і запаліў агонь. Зноў адгукнуліся ўсе яхі, толькі ўжо задаволена. Светазар падлажыў запалку пад камалкі сухога кактуса; аганёк заскакаў, затрашчаў, як жывы. Публіка яшчэ больш зашумела, загаманіла. Сярод гоману выразна вылучалася слова «го». А Светазар і Святлана праз перадатчыкі зразумелі сэнс гэтага слова: «агонь!»

— Яны ўжо ведаюць агонь! — крыкнула Святлана.

— Выходзіць, што так, — збянтэжыўся Светазар. — Чаму-ж тады ніякага следу агню няма?

Агонь павялічваўся, трашчаў усё больш і больш, асвятляў усю пячору, і паступова яхі пачалі адчуваць яго цеплыню. Найвялікшае задавальненне свяцілася на іх тварах. Выраз іх усё больш і больш адыходзіў ад жывёльнага. Вочы загарэліся чалавечай радасцю.

— Таварышы! Ды вы ўжо гатовы засмяяцца! — закрычаў Светазар. — Давайце разам. Ну, раз... два... тры!..

Светазару і Святлане так стала смешна ад гэтай каманды, што яны самі зарагаталі так, як ніколі яшчэ не смяяліся ў сваім жыцці. Усё гэта разам разварушыла яхаў, на іх тварах таксама засвяцілася ўсмешка...

Толькі бліжэйшы сусед Святланы, вельмі падобны да тых мішак, якія на Зямлі прадаюцца ў магазінах, глядзеў сур'ёзна, як стары. Святлана не ўстрымалася і прытуліла яго да сябе. Ён са здзіўленнем паглядзеў на яе, але не засмяяўся. Замест яго засмяяліся яшчэ раз яго бацькі і дзядзькі.

— Дык адкуль усё-такі вы ведаеце агонь? — звярнуўся Светазар да яхаў, нібы да зусім разумных істот.

Старэйшы з іх зразумеў сэнс пытання. З яго мармытання Светазар і Святлана праз свае перадатчыкі выявілі такі сэнс:

— Даўно-даўно... бацькі... дзяды...

— Усё ясна! — сказаў хлопчык сястры. — Відаць, у іх ёсць паданне, што калісьці продкі іх мелі агонь ды страцілі. Мусіць, гэта было шмат тысяч гадоў назад. Ды яно і зразумела: якім чынам захаваеш тут агонь, калі ніякага паліва няма, апрача гэтых няшчасных кактусаў, якіх можа і на ежу нехапае.

— У такім разе, — з жалем сказала дзяўчынка, — можа замест карысці мы зрабілі ім шкоду. Калі





у іх няхопіць паліва і яны зноў страцяць агонь, то гэта будзе для іх такім няшчасцем, якога яны не перажывуць.

Светазар мог толькі сурова сказаць:

— Мы не можам пільнаваць іх агонь. Хай самі змагаюцца за яго і за жыццё. Нашы продкі не мелі такіх шэфаў, як мы з табой, *але давялі да нас нават і такі агонь, як у гэтым ліхтарыку.* А цяпер, таварышы, папрактыкуемся. Ён узяў за плячо аднаго старога яха, паказаў на агонь і сказаў:

— Агонь хоча есці. Разумееце?

Для большай пераканальнасці ён узяў кавалак кактуса і сунуў сабе ў рот. Потым палажыў гэты кавалак на агонь. Агонь ажывіўся, забегаў, затрашчаў. Тады Светазар сунуў кактус у рукі яха і паказаў, каб той зрабіў тое самае. Ях нязграбна адламаў кавалак кактуса і сунуў яго ў агонь, але так няўдала, што апёк сабе руку і пачуўся пах смажанай поўсці. Ях закрычаў і кінуўся ўцякаць. А за ім і іншыя. Усе кінуліся да адтуліны і пачалі праціскацца праз яе.

— Стойце! Стойце! — закрычалі Светазар і Святлана, са смехам пабеглі да іх і пачалі цягнуць назад.

Убачыўшы, што нябесныя госці смяюцца, яхі трохі супакоіліся і асцярожна вярнуліся назад. Светазар зноў пачаў навучанне.

— Бачыце, нічога страшнага няма. Трэба толькі асцярожна, вось так.

Зноў ён стаў паказваць, зноў прапанаваў яху зрабіць тое самае. Пасля адпаведнай трэніроўкі быў, нарэшце, падрыхтаваны на Марсе першы спецыяліст па падтрыманню агню.

— Ну, цяпер мы спакойна можам ехаць далей, — сказаў Светазар. — А вы бывайце здаровы, жывіце багата. Шкада нам вас, але нічога не зробіш, няўдалую планету выбралі вашы продкі. Але нічога, можа калі-небудзь мы здолеем перасяліць вас да сябе, а то на вашым Марсе, як відаць, ніякай цывілізацыі не зробіш.

Яхі слухалі яго развітальную прамову з такім выглядам, нібы ён казаў ім найпрыемнейшыя рэчы. А калі госці накіраваліся да выхаду, гаспадары трохі занепакоіліся і пайшлі ўслед. Светазар, убачыўшы, што кіраўнік агню таксама ідзе, раззлаваўся, схапіў яго за руку і пацягнуў назад, да агню, і прачытаў яму яшчэ адно строгае павучанне. Ях зразумеў і застаўся ля агню. Калі выйшлі з пячоры, сонца ўжо садзілася. Госці селі ў сваю машыну і з палёгкай знялі дыхальныя маскі і шапкі. Для яхаў адбыўся яшчэ новы цуд: іхнія госці ператварыліся ў іншых, новых «лю»...

На двары пачыналася зіма, хоць дванаццацігадзінная, але лютая зіма.

— Што-ж мы цяпер будзем рабіць? — спытала Святлана. — Можа паспім тут, седзячы?

— Калі і паспім, то ні ў якім разе не тут, бо нашы прыяцелі замерзнуць, стоячы ля нас, — адказаў брат. — Лепш перанясемся туды, дзе светла. Можна, напрыклад, накіравацца на захад і дагнаць сонца, а потым ехаць следам за ім. Такім чынам мы можам зрабіць сабе вечны дзень, а значыцца, і вечнае лета.

— Тутэйшае вечнае лета я не памяняла-б на адзін наш летні дзень, — зазначыла Святлана.

Яны крануліся з месца і панесліся наўздагон Сонцу. А бедныя яхі доўга стаялі на месцы і сумна глядзелі на неба. Толькі мароз прымусіў іх вярнуцца ў сваю пячору.

**«Зялёная даліна»**

Сонца падарожнікі дагналі хутка і апынуліся ў тым самым вечары, які толькі што пакінулі. Гэта было прыблізна шэсць гадзін. Потым стала пяць гадзін, чатыры, тры і нарэшце поўдзень.

— Выходзіць, што мы сталі на шэсць гадзін маладзейшымі, — засмяялася Святлана.

— Правільна! — пацвердзіў Светазар. — Калі хочаш, можам і спыніць наш узрост. Калі сёння, скажам, 12-га ліпеня, то, едучы за сонцам, мы заўсёды будзем мець

## Сатыра і гумар




Уладзімір КОРБАН

Байка

Быў некалі ў сяле вядомы чэмпіён.
Цікавай якасцю той хлопец вызначаўся:
Прыпрэцца да сцяны патыліцай, бывала, ён,
Дык хто-б ні браўся
За вушы адцягнуць яго, — не мог!
Здаралася, што браліся і ўдвох,
Але дарэмна, — вопыт не ўдаваўся.
А хлопец гэтым нават задаваўся.
«Блазнота! — ён смяяўся. — Дзівакі! —
Мяне і ўчатырох не зможаце! — Я дужы!»
І вось, цягаюць кожны дзень яго за вушы
Ва ўсе бакі.
У хлопца-ж толькі вушы чырванеюць.
«Я, — кажа, — вось патрэніруюся са два гадкі,
Дык і дзесяцера ўправіцца са мною не сумеюць,
Змагу спаборнічаць тады з усім сялом!»
«Вялікая ў цябе перспектыва! —
Заўважыў тут сусед. — Мажліва,
Праз два гады ты зробішся аслом! —
За гэты час табе адцягнуць вушы,
Калі трэніравацца будзеш пільна так.
І толькі аб адным пашкадаваць я мушу:
Хваста не вырасце ў цябе, бядак».
Бывае, іншы раз юнак
Зусім пустое, глупства вырабляе
І гэта гераізмам называе.




...арыстыкі ён вам
...росчыркам адзіным:
...ён курыць фіміам,
...збівае з ног дубінай.

...атамі аброс,
...паперы горы,
...яў ён толькі нос,
...льмі важна ўгору.



...а я нарэшце?!.
...вішча,
...часіў мой дзед,
... бясчэсціць
...ытэт...
...звыштэрмінова едзе:

...адзін прастак,
...– Антымядзведзеў...
...эта дзіўна!..
...апаратыўны, —
...ны...

...каторы год,
...-новаму назваўся,
...й-жа ход:
...шка і застаўся.

## МАЛАДЫЯ ПАРАШУТЫСТЫ

Парашутны спорт карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод нашай моладзі. Многія сотні юнакоў і дзяўчат у пярвічных арганізацыях Добраахвотнага Таварыства Садзеяння Арміі, Авіяцыі і Флоту набываюць спецыяльнасць укладчыка парашута, авалодваюць тэхнікай аддзялення ад самалёта, кіравання парашутам у паветры і прызямлення.

Далёка за межамі нашай рэспублікі вядома парашутыстка Людміла Панкевіч, якая ў 1952 годзе прымала ўдзел ва ўстанаўленні сусветнага рэкорда дзяўчат па групавому парашутнаму прыжку. Такія спартсмены-парашутысты, як Шаіпаў М. Х., Урбановіч В. М. (Цэнтральны аэраклуб БССР), Паплаўскі Б. В. і шмат іншых, маюць на сваім рахунку па 300 і больш прыжкоў.

Другое рэспубліканскае спаборніцтва па парашутнаму спорту БССР 1954 года прынесла спартсменам-парашутыстам новыя перамогі. Амаль усе ўдзельнікі, што выступалі не ў камандах, выканалі нарматыўныя патрабаванні «Майстра спорту СССР». Сярод іх — Казлоў Д. Г., Крылоў А. М., Палынкоў В. В., Крыленка В. В., Паплаўскі Б. В., Урбановіч В. М., Шаіпаў М. Х. Першае месца заняла каманда Цэнтральнага аэраклуба БССР, другое — Віцебскі аэраклуб, трэцяе — каманда г. Мінска, чацвёртае—Гомельскі аэраклуб, пятае — Магілёўскі аэраклуб.

У асабістым першынстве па практыкаванню № 1 (вышыня 600 метраў на дакладнасць прызямлення) перамогу атрымаў Пятроўскі Р. Л., сярэдні радыяльны адхіл ад цэнтра круга ў якога быў роўны 18,3 метра.

На здымку: спартсмен парашутыст Цэнтральнага аэраклуба БССР чэмпіён рэспублікі па парашутнаму спорту 1954 года Пятроўскі Р. Л. (справа) і інструктар лётчык парашутыст Урбановіч В. М. рыхтуюцца да прыжка.

Тэкст і фота Н. ГАЦКО.



## МІНСК БУДУЕЦЦА

Летам, у час наведвання нашай рэспублікі адной з замежных дэлегацый, група гасцей аглядала Мінск. Госці захапіліся велізарным размахам будаўніцтва. Пад уражаннем бачанага адзін з гасцей горача ўсклікнуў:

— Па-мойму, Мінск — гэта найвялікшая будаўнічая пляцоўка ў свеце!

Мінчане ведаюць, што кожны дзень на новабудоўлі сталіцы выдаткоўваецца звыш двух мільёнаў рублёў.

Нядаўна ў цэнтры горада вызваліўся ад будаўнічых рыштаванняў яшчэ адзін манументальны будынак — Палац культуры прафсаюзаў. Моладзь даўно чакае ўводу ў строй гэтага палаца, які можа стаць цэнтрам культурнага жыцця працоўных не толькі сталіцы, але і ўсёй рэспублікі. У ім будзе некалькі вялізных залаў і мноства пакояў для работы самых рознастайных гурткоў. Адна толькі глядзельная зала палаца будзе ўмяшчаць 850 чалавек. Над мастацкім афармленнем новага ачага культуры працуюць лепшыя мастакі і скульптары.

Непадалёку ад будынка палаца вядзецца кладка сцен Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, будуецца Тэатр юнага гледача. Палац акружаецца зялёнымі насаджэннямі.

Так змяняе сваё аблічча адзін з куткоў горада.

Яркія прыклады клопатаў партыі і ўрада ва ўздыме дабрабыту народа можна знайсці ў кожным раёне сталіцы.

На здымку: будынак Палаца культуры прафсаюзаў.

Тэкст А. Дзітлава. Фота Д. Прэса.



## Герой Порт-Артура

Пяцьдзесят год таму назад, 2 (15) снежня 1904 года, пры абароне асаджанай японцамі рускай крэпасці Порт-Артур быў забіты начальнік сухапутнай абароны крэпасці генерал-лейтэнант Раман Ісідаравіч Кандраценка.

Генерал Кандраценка належаў да прагрэсіўнай часткі каманднага саставу рускай арміі. Ён нарадзіўся ў сям'і ваеннаслужачага ў 1857 годзе. Выхаванне атрымаў у Полацкай ваеннай гімназіі, пасля якой закончыў у Пецербургу інжынернае вучылішча, інжынерную акадэмію і акадэмію генеральнага штаба. Пасля акадэміі служыў у штабе Віленскай ваеннай акругі, адкуль быў пераведзены ва Упраўленне Мінскай мясцовай брыгады (1888 г.) на пасаду штаб-афіцэра. З мэтай атрымання цэнзу некаторы час камандаваў батальёнам Каломенскага палка ў г. Бабруйску, а ў 1895 годзе быў прызначаны камандзірам 20-га стралковага палка ў г. Сувалкі.

Разам з палком ён у 1900 годзе зрабіў паход на Далёкі Усход і быў пасланы ў Кітай на падаўленне баксёрскага паўстання, але ўдзелу ў баявых дзеяннях не прымаў. Пасля атрымання чыну генерал-маёра (1901 г.) служыў дзяжурным генералам у штабе Прыамурскай ваеннай акругі. Напярэдадні руска-японскай вайны атрымаў у камандаванне 7-ую Усходне-Сібірскую стралковую брыгаду (у Порт-Артуры), якая потым была разгорнута ў дывізію. Камандуючы ёю, Кандрацэнка, па словах загада па ваеннаму ведамству, «з'явіўся прыкладам самаадданасці, нястомнай энергіі, сапраўдных ведаў, майстэрства і высокай ваеннай доблесці».

З пачатку руска-японскай вайны ён быў прызначаны камандуючым сухапутнай абароны крэпасці Порт-Артур.

Строгі ў пытаннях дысцыпліны, патрабавальны ў інтарэсах справы, Кандрацэнка ў адносінах да падначаленых праяўляў мяккасць у абыходжанні і клопаты аб іх патрэбах.

З самага пачатку абароны Порт-Артура Кандрацэнка зрабіўся самым любімым з камандзіраў. Вайна асабліва ярка і пераканаўча паказала ўсе дадатныя якасці гэтага чалавека і камандзіра. Маючы вялікую асабістую храбрасць, ён штодзённа аб'яздждаў найбольш небяспечныя ўчасткі сухапутнага фронта, заўсёды ветліва адносіўся да абаронцаў крэпасці — салдат.

Загінуў Кандрацэнка ад выбуху варожай гранаты на форце № 2 і быў пахаваны 4 (17) снежня на батарэі Плоскага мыса. Пасля заканчэння вайны труна з астанкамі Р. І. Кандрацэнкі была перавезена праз Одэсу ў Пецербург, дзе 25 верасня 1905 года з надзвычай урачыстым цырыманіялам пахавана на могілках у Александра-Неўскай лаўры.

**П. КРЫЖАНОЎСКІ.**

## Дзядуля рускай хіміі

7 снежня споўнілася 145 год з дня нараджэння выдатнага рускага вучонага хіміка-арганіка Аляксандра Абрамавіча Васкрэсенскага. Ён нарадзіўся ў горадзе Таржку былой Цвярской губерні. Скончыўшы ў 1832 годзе семінарыю, будучы вучоны адмаўляецца ад духоўнай кар'еры і паступае ў адну з лепшых вышэйшых навучальных устаноў Расіі — Галоўны педагагічны інстытут у Пецербургу. У 1836 годзе ён заканчвае яго па першаму разраду і з групай другіх маладых вучоных едзе за граніцу для падрыхтоўкі да прафесарскай дзейнасці.

У лабараторыі вядомага нямецкага хіміка Юстуса Лібіха малады вучоны выконвае шэраг работ, якія звяртаюць увагу навуковых колаў. У 1838 годзе Васкрэсенскі знаходзіць састаў нафталіну, што мела вялікае значэнне для вырашэння пытання аб атамнай вазе вугляpода. У доктарскай дысертацыі «Аб хіннай кіслаце» Васкрэсенскі вызначае састаў гэтай кіслаты і апісвае адкрытае ім вешчаство — хінаіл (названае пазней хінонам). Адкрыццё новага злучэння выклікала вялікую цікавасць у навуковых колах і мела немалое значэнне для далейшага развіцця хіміі, таму што многія фарбавальнікі маюць хіноідную будову.

Наступны буйны працай было адкрыццё і вылучэнне з бабоў какао новага алкалоіда — тэабраміна, які атрымаў шырокае прымяненне ў медыцыне як сродак, які зніжае крывяны ціск. Гэтае даследаванне было закончана пасля звароту вучонага на радзіму.

З 1840 года Васкрэсенскі аддае шмат увагі вывучэнню айчынных гаручых выкапняў — торфу, сланцу і каменнага вугалю.

Вучоны садзейнічаў вырашэнню многіх практычных задач. Але асабліва вялікая роля яго ў падрыхтоўцы цэлай плеяды рускіх хімікаў. Ён быў глыбока перакананы ў неабходнасці замены ў рускіх вучэбных і даследчых установах прафесараў-іншаземцаў рускімі.

У 1863 годзе Васкрэсенскі быў выбраны рэктарам Пецербургскага універсітэта. Дзейнасць яго была настолькі плённай, што ў 1866 годзе яго выбіраюць другі раз. Аднак у наступным годзе Васкрэсенскага прызначаюць папячыцелем Харкаўскай вучэбнай акругі, і ён, будучы супраціўнікам сістэмы класічнай адукацыі, у хуткім часе падае ў адстаўку.

Памёр Васкрэсенскі ў сваім маёнтку Мажайцава ў Цвярской губерні 2 лютага 1880 года.

Імя выдатнага рускага вучонага — патрыёта сваёй радзімы дарагое ўсім совецкім людзям.

**Б. РОЗАЎ.**

---

## ШАШКІ

**пад рэдакцыяй майстра спорту**
**М. ШАВЕЛЯ**

1. c3 — b4 b6 — a5
b4—c5 d6 : b4
3. a3 : c5

Такое цячэнне пачатку партыі носіць назву «кол».

3. ... f6 — g5
4. b2 — c3 g5 — h4
5. g3 — f4 c7 — d6
6. c3 — b4 a5 : c3
7. d2 : b4 g7 — f6
8. a1 — b2 d8 — c7
9. b2 — a3 f6 — g5??

Праігрывае. Трэба было 9... h8 — g7 або 9. ... f6 — e5.



Становішча пасля 9 хода чорных. У гэтым становішчы майстар С. Данілін правёў камбінацыю, якая выйгрывае.

Прапануем чытачам самім знайсці гэтую камбінацыю.



## У НУМАРЫ



На першай старонцы вокладкі: **Заслужаная артыстка рэспублікі салістка Беларускага Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Клаўдзя Кудрашова ў ролі Алесі з оперы Е. Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся».**

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Пано «За мір» — калектыўная работа вышывальшчыц Белпрамсовета Л. Азарка, В. Лукашонак і А. Трале.**

Фото А. Дзітлава.


**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі.
Тэхрэдактар І. Шаршульскі.
Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара—93-648, намесніка рэдактара—93-592, адказн. сакратара—93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі — 93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі—93-985, аддз. ілюстрацый — 93-892, аддзел пісем — 93-854.

Здадзена ў набор 10.X.54 г.
Падпісана да друку 29.XI.54 г.
Фармат паперы 70×108⅛.
Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.
Тыраж 20 000 экз.

Цана 2 руб.

АТ 04256. Заказ 815.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.


# Красворд

**Склаў І. Курбека.**



**Па гарызанталі:** 3. Мерапрыемства з мэтай стварыць шырокую вядомасць. 6. Дровы, складзеныя чатырохвугольнікам правільнай формы. 7. Лячэбная ўстанова, пры якой вядзецца навуковая і вучэбная работа. 9. Ісціна, якая не патрабуе доказу. 12. Урачыстая музычная п'еса, часцей за ўсё для хору. 14. Сумеснае жыццё раслін або жывёл з узаемнай карысцю для іх. 15. Прыбор са спецыяльным валам для друкавання рукапісаў, чарцяжоў. 18. Малюнак, зроблены з кавалачкаў рознакаляровага шкла або з каменьчыкаў. 19. Шматграннік з дзесяццю плоскасцямі. 22. Складзены ў пэўным парадку пералік прадметаў. 24. Значок на форменнай фуражцы. 26. Скрытыя дзеянні з выкарыстаннем несумленных сродкаў. 30. Духавы драўляны музычны інструмент. 31. Старадаўні польскі танец. 34. Знаўца майстэрства вядзення вайны. 35. Асоба, якая здае экзамены пры навучальнай установе, не будучы яе вучнем. 36. Памост для выступленняў. 37. Мастак або вучоны, які атрымаў вышэйшую прэмію.

**Па вертыкалі:** 1. Нервовая рэакцыя арганізма на знешняе раздражненне. 2. Умоўнае ізабражэнне. 4. Чалавек, што ўносіць новыя ідэі ў якой-небудзь галіне. 5. Паслядоўнасць. 8. Навука аб здароўі насельніцтва. 10. Аднолькавы зачын радкоў верша. 11. Напітак. 13. Перапынак. 14. Прыстасаванне ў рухавіках для іх механічнага пуску. 16. Прыбярэжнае суднаходства. 17. Механізм для пад'ёму цяжараў. 20. Калегіяльны орган для работы ў якой-небудзь галіне. 21. Раённы цэнтр УССР. 23. Цыркавы гімнаст. 25. Спалучэнне двух галосных у адным складзе. 27. Кароткае ізлажэнне асноўнага зместу кнігі, навуковай праблемы. 28. Трохскладовая стапа. 29. Цэнтральны карабель эскадры. 32. Рулявое кола на судне, самалёце. 33. Прыбор для рэгулявання сілы току.